
БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 47 (13579)

16 —22 лістапада 1992 года

Кошт 3 рублі.

# ГАЙСЁНАК РУБІЦЬ — ГАЙ ШУМІЦЬ!

Міністр адукацыі Беларусі В. ГАЙСЁНАК адкрывае "Агульнасаюзныя(?) Дні фізікі – 6"

ПАДРАБЯЗНЕЙ ПРА ГЭТА НА СТАРОНЦЫ 4





**Мы адкажам на ўсе вашы пытанні. Звяртайцеся па тэлефоне 32-13-04**



## БЕЛАРУСКІЯ МАНЕТЫ ЗАЗВІНЯЦЬ НЯСКОРА



*"Ці праўда, што ў Барысаве на базе нейкага прадпрыемства будуецца манетны двор? Калі мы зможам убачыць беларускія манеты?*

**У.ЕЎДАКІМАЎ, Брэсцкая вобласць".**

З гэтым пытаннем мы звярнуліся да Уладзіміра Яраслававіча Сінько, начальніка камісійна-касавай работы Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Што датычыць першага пытання, то, як сказаў Уладзімір Яраслававіч, няпраўда. Манетны двор не будуецца. Што датычыць беларускіх манет, то да таго часу, пакуль Беларусь знаходзіцца ў рублёвай зоне, пра "незалежныя" манеты гаворкі быць не можа.



## БРУДНЫ ЗАВОД? ЁСЦЬ, КАНЕШНЕ!



*"Якія прадпрыемствы ў Мінску самыя "брудныя"?*

**І.КУЗНЯЦОЎ, г.Мінск".**

Пытанне гэта вельмі спрэчнае (асабліва зараз, калі некаторыя прадпрыемствы з-за недахопу прадукцыі працуюць па скарочаным графіку). Але, як зазначыў Анатоль Іванавіч Вастракнутаў, старшыня камітэта па экалогіі, адказаць на яго можна. Так, у Мінску самы вялікі валавы выкід у атмасферу назіраецца на ЦЭЦ-4 (але ён хутка рассейваецца). А больш за ўсё праблем для навакольнага асяроддзя стварае Мінскі аўтамабільны завод. Але ўсё гэта так адносна... Бо дзе сёння можна знайсці чысты, незабруджаны куточак? Напэўна, нідзе (як ні шкада).









## БАЙКАНУР РАСКРЫВАЕ КАРТЫ



*"Хацелася б, каб Вы расказалі пра касмадром Байканур.*

**А.ФРАЛОЎ, г.Віцебск."**

Яшчэ зусім нядаўна Вамі, паважаны А.Фралоў, за такое пытанне зацікавіліся б людзі з КДБ. Але ў наш час неразбярыхі і галоснасці магчыма ўсё. Можна нават адказаць на ваша пытанне.

Касмадром займае плошчу ў 7360 кв.м. Першапачатковы балансавы кошт эксперыментальна-выпрабавальнай базы — 3,5 мільярда рублёў. А сярэднегадавыя выдаткі на ўтрыманне касмадрома складаюць 250 мільёнаў рублёў. Лічбы, як бачыце, салідныя.

Што датычыць планіроўкі касмадрома, то яна бачна на малюнку. А каб вам было больш зразумела — расшумачым. 1 — стартавы комплекс р-н "Пратон"; 2 — універсальны комплекс-старт рн "Энергія"; 3 — стартавы комплекс "Энергія"-"Буран"; 4- стартавы комплекс "Саюз" ("гагарынскі старт"); 5 — стартавы комплекс рн "Усход"; 6 — стартавы комплекс рн "Зеніт".

**(Па матэрыялах газеты "Ракетна-касмічная тэхніка".)**

## МУЗЕЯ КАМСАМОЛА НЯМА. А ШКАДА...



*"Напішыце, калі ласка, што стала з Музеем камсамольскай славы ў Мінску?*

**Я.БЯРЖЫЦКІ, г.Магілёў".**

Павінен заўважыць, што такога музея ўвогуле не было. Была проста група людзей, якія займаліся зборам матэрыялаў па гісторыі камсамола, па гісторыі маладзёжнага руху. Назбіралася шмат цікавых дакументаў, экспанатаў, з якіх можна было б стварыць неблагую экспазіцыю для музея. Але ў камсамола да гэтага "рукі не дайшлі".

Зараз там працуюць два чалавекі. Адзін з іх, Святлана Плюшчэня, захавальнік фондаў, паведаміла, што ім цяпер перадаецца шмат дакументаў, камсамольскіх сцягоў і г.д. Няма толькі людзей, якія дапамаглі бператварыць усё гэта ў цікавы музей.

## "ПАСЕЙЦЕ ВАШЫ ГРОШЫКІ..."



*"Адкажыце, калі ласка, ці прымаюць у дзяржаўных установах каштоўныя металы? Дзе іх можна здаць і колькі каштуюць зараз золата і срэбра?*

**М.НЯХАЙЧЫК, Мінск".**

Так, прымаюць. Займаецца гэтым "Белювеліргандаль", а непасрэдна здаць каштоўныя металы, камяні і вырабы з іх можна ў спецыяльных скупачных пунктах. У Мінску, напрыклад, такі пункт знаходзіцца па вул. Батанічнай, 5.

Закупачныя цэны на металы, прынамсі, на найбольш распаўсюджаныя пробы, зараз наступныя:

Золата 583 пробы — 1590 руб. за 1 грам.

Зубное золата — 2300 руб. за 1 грам.

Серабро 875 пробы — 48 руб. за 1 грам.

Серабро 925 пробы — 51 руб. за 1 грам.



## РАДЗІМА ЎЗЯЛА — РАДЗІМА АДДАЛА... 25 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ



*"У нашай сям'і вялікае гора. Загінуў у арміі старэйшы сын. Мы з мужам ужо на пенсіі, а малодшаму таксама хутка ісці служыць. Хацелася б даведацца, ці павінен ён ісці ў армію, і які памер грашовай дапамогі, што выплачваецца бацькам загінуўшага.*

**Сям'я ФІЛІМОНАВЫХ, г.Магілёў".**

Як нам паведамілі ў Міністэрстве абароны РБ, згодна з "Законам аб воінскім абавязку", малодшы сын у такім выпадку ў войска не прызываецца. Што датычыць грашовай дапамогі, то па цяперашняму заканадаўству сям'я загінуўшага атрымлівае суму ў 25 тысяч рублёў. Але, як вядома, на сесіі Вярхоўнага Савета РБ 13 лістапада быў прыняты закон "Аб статусе ваеннаслужачых", дзе гаворыцца, што ў выпадку гібелі ваеннаслужачага ў мірны час сям'я атрымае кампенсацыю ў памеры 250 мінімальных зарплат (праўда, тэрмін увядзення ў дзеянне гэтага закона дэпутатамі пакуль яшчэ не вызначаны).

## МАТОРНЫ Ў МІГРАЦЫЮ НЕ ЗБІРАЕЦЦА



*"Чуў, што маторны завод збіраецца выносіць свае ліцейныя цэхі за рысу горада. Куды, калі, і дзе будуць брацца рабочыя кадры для гэтых цэхаў?*

**Ю.ДАНІЛЬЧЫК, г.Мінск".**

Як паведаміў галоўны інжынер маторнага завода, чуткі гэтыя не маюць пад сабой ніякай глебы (гэта па-першае). А па-другое, на маторным заводзе няма ліцейных цэхаў. Ёсць толькі цэх алюмініевага ліцця (абсалютна, як сказалі на заводзе, бясшкодны). Так што, прабачце, але пытанні вашы застаюцца без адказу, таму што ўзяты яны з паветра.

## ХОЧАШ НЕ ХОЧАШ, А СЛУЖЫЦЬ ТРЭБА



*"Я вучуся на другім курсе завочнага аддзялення ВНУ. Надышоў тэрмін ісці ў войска. Ці могуць даць мне адтэрміноўку да канца навучання?*

**В.БАХЦІЯРАЎ, г.Мінск".**

Не, не могуць. Як паведамілі ў ваенкамаце Ленінскага раёна сталіцы, вас прызавуць у войска адразу ж пасля дасягнення 18-гадовага ўзросту. Але могуць даць скончыць курс (у вашым выпадку — другі). Для гэтага неабходна прынесці даведку з месца вучобы. А на прызыўным участку спецыяльная камісія вырашыць, прызваць вас адразу ж ці пасля заканчэння навучальнага года.



**На пытанні адказвалі А.ПАЛЫНСКІ, С.ВІШНЕЎСКІ, Ф.ЛЯВІЦКІ.**





# ДЗЕНЬ СТУДЭНТА

Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, палітычную нестабільнасць і шматлікія побытавыя нязручнасці, студэнты тым не менш застаюцца самай вясёлай часткай грамадства.

І сапраўды, жывём як у анекдоце.

Дзённік студэнта:
дзень да стыпендыі – хочацца есці;
дзень стыпендыі – нічога не памятаю;
дзень пасля стыпендыі – вельмі хочацца есці...

*Дзіма БАРОДКА, студэнт 1-га курса факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ:*

— Мне, бадай, не хапіла б адной стыпендыі, каб адсвяткаваць Дзень студэнта. Таму што я такі чалавек: люблю жыць на шырокую нагу, і калі святкаваць, дык шырока. Каб было мора віна, горы ежы і рознае такое...

Сапраўды, асабліва не разгонішся. Стыпендыя сёння складае нешта каля 2 тысяч рублёў. Што можна купіць на гэтыя грошы?

*Сяргей ДУБКОЎ, 4-ы курс БДУ:*

— Добрую кашулю. Альбо чатыры разы схадзіць у рэстаран, ці купіць танныя красоўкі. У прынцыпе, усё. Праўда, можна забяспечыць сабе нядужа добрае харчаванне. На шчасце, у мяне такіх праблем няма.

Група здае экзамен.
Экзаменатар:
– Пытанне на "пяцёрку": як мяне завуць? Ня ведаеце? Тады на "чацвёрку": якога колеру падручнік? Ня ведаеце? Добра, тады на "тройку": як называецца прадмет?
Адзін студэнт устае і звяртаецца да аўдыторыі:
– Пайшлі, хлопцы. "Халява" ня пройдзе!

*Сяргей ДУБКОЎ:*

— Гэта звычка са школы. Я хаджу амаль на ўсе лекцыі. На чацвёртым курсе вучоба — вясёлая. Першыя два курсы было складана. А цяпер усе ўжо адаптаваліся, і шмат хто ставіцца да вучобы як не да самага галоўнага. У людзей узнікаюць зусім іншыя праблемы: у каго — пялёнкі, у каго — праца... І ўвогуле, 4 гады правучыцца і займець спецыяльнасць, якая не зможа цябе пракарміць — гэта крыўдна.

А Дзень студэнта нагода сабрацца разам з сябрамі і ўбачыць твары тых, з кім вучышся чатыры гады, але асабліва не сустракаеш у аўдыторыі.

Дзяўчына здае экзамен. Нічога ня ведае. Выкладчык бярэ залікоўку...
Раптам дзверы расчыняюцца, убягае хлопец і крычыць:
– Танька! Віншую! У цябе толькі што нарадзіўся сын!
Прафесар аўтаматычна ставіць "выдатна" і думае: "Цікава, а як гэта?".

*Ірына А., замужняя студэнтка:*

— Студэнцкае жыццё? А што ўвогуле ўваходзіць у паняцце "жыццё"? Усё адразу! Беганіна па кілбасу ў тым ліку. Філасофскія пошукі, сустрэчы вечарамі — гэта ўсё туды ж...

А замужняй студэнткай быць цяжка: не хапае часу ці на мужа, ці на вучобу. Ці на ўсё адразу. Асабіста мне не хапае часу на вучобу. Затое мой муж сыты, апрануты і гэтак далей. Ды і ніхто з нашых дзяўчат не збіраецца працаваць праграмісткамі. Сур'ёзна! А ведаў, каб выкладаць у школе, у мяне хопіць.

Дзень студэнта? Першы раз чую... Можа, калі б я часцей з'яўлялася ва універсітэце, думаю, ведала б...

У любым, самым бедным, чорным, галодным жыцці ёсць месца Святу! А ў студэнцкім – тым болей.

Днямі перад Домам ураду студэнты правялі – не, не галадоўку – антыгаладоўку. Загадкавая душа беларуса... Хоць гэта і не горшы – калі ня лепшы – спосаб прыцягнуць увагу, і не толькі да будняў студэнцкіх, але і да святаў.

А 16 лістапада ў Мінску пачаліся Агульнасаюзныя (?) дні фізікі (АДФ). Вырашылі не змяняць "гістарычную" назву – дні, дарэчы, праводзяцца ў шосты раз – а дадаць да яе пытальнік.

17 лістапада, у Дзень студэнтаў, адбылося ўрачыстае адкрыццё АДФ-6 у дворыку БДУ. Дэкан фізфака прынародна падпісаў заяву аргкамітэта аб вызваленні студэнтаў ад заняткаў з 16 па 22 лістапада, на ўвесь тэрмін правядзення Дзён фізікі. А ганаровы госць – міністр адукацыі РБ Віктар Анатольевіч Гайсёнак узмахнуў сякерай – і чырвоная стужка на дзвярах універсітэта была... перарублена. Дні распачаліся – ужо афіцыйна.

І вечарам таго ж дня прайшоў конкурс "Міс Фізіка".

Фізікі працягваюць жартаваць! І працягваюць праводзіць цікавыя імпрэзы.

Яно яшчэ і такое, студэнцкае жыццё!

А вынікі, як зазначыў міністр, падвядзе снежань...

В. АКУЛІЧ




НА ЗДЫМКАХ:
Адкрыццё "Дзён фізіка".
Антыгаладоўка перад Домам урада.
Пад час шоу "Міс–Фізіка"

Фота Сяргея БРУШКО.





# ДАХ З САБОЮ НЕ ЗАБЯРЭШ

*Да нядаўняга часу ў рэспубліцы не было праграмы аграрнай рэформы. Першую спробу даць эканамічнае абгрунтаванне перабудовы вёскі зрабілі супрацоўнікі НДІ эканамічных праблемаў аграпрамысловага комплексу, падрыхтаваўшы праграму трансфармацыі калгасаў і саўгасаў у структуру рыначнага тыпу. Што ж чакае калектыўны сектар сельскай гаспадаркі ў будучым? Пра гэта размова з дырэктарам інстытута Віктарам Рыгоравічам КРЫСТОЎСКІМ.*

**– Зараз шмат гаворыцца пра тое, што нашы калгасы з'яўляюцца неэфектыўнай формай аб'яднання сялян. Зыходзячы з такога пункту гледжання, вы і падрыхтавалі праграму. Між тым, у мяне асабіста ўзнікаюць сумненні наконт таго, ці неабходна яна і, увогуле, ці патрэбна праводзіць рэформы на вёсцы.**

— Так мяркуюць многія. Я не буду прыводзіць канкрэтныя лічбы, не збіраюся нават параўноўваць нашу гаспадарку з замежнай. Скажу толькі, што пра стан вёскі вельмі добра гавораць паліцы крамаў, дзе заўжды чэргі па дрэнную садавіну і гародніну, мяса і малако. Безумоўна, вінаваты ў гэтым не толькі калгасы, а яшчэ і цэнавая палітыка, падаражанне тэхнікі і г.д. Аднак неабходна разумець, што, нават беручы да ўвагі гэтыя прычыны, нельга чакаць паступленняў прадуктаў харчавання ад калектыўнага сектара ў неабходных аб'ёмах. Таму што ўся бяда не ў цэнах, не ў тэхніцы, а ў тым, што на зямлі няма гаспадара. Толькі сапраўдны ўласнік зможа накарміць рэспубліку і палепшыць умовы свайго жыцця. І гэты працэс ужо ідзе стыхійна. Аднадумцаў хоць і няшмат, але ёсць. Трансфармаваны ў кааператывы 29 калгасаў і саўгасаў, у 154 гаспадарках існуюць арэндныя калектывы, у 426 — сфарміраваны паявыя маёмасныя фонды, у 236 — маёмасныя і паявыя. На базе 26 калгасаў і саўгасаў створаны калектыўныя гаспадаркі на новых асновах, створаны тры калектыўна-паявыя гаспадаркі і тры кааператыўна-паявыя і адно арэнднае прадпрыемствы, два таварыствы з абмежаванай адказнасцю, арганізаваны амаль 1990 фермерскіх гаспадарак.

І яшчэ. Дзяржаўныя прадпрыемствы не прыстасаваныя да рынку, таму што арыентаваны на дзяржаўныя закупкі, цэны, забеспячэнне. У новых умовах яны не выжывуць. Таму неабходна ствараць прынцыпова іншыя прадпрыемствы.

**– Што ж гэта за трансфармацыя і як яна будзе праходзіць?**

— Мы мяркуем зрабіць гаспадаркі больш гібкімі і адначасова зацікавіць сялян у выніках сваёй працы. Яны раздзеляцца на больш дробныя гаспадаркі, якія змогуць зліцца з іншымі сялянскімі гаспадаркамі, заводамі. Сяляне самі выбіраюць, як лепш змяніць гаспадарку, у што пераТварыць: у акцыянернае таварыства адкрытага ці закрытага тыпу, у вытворчы кааператыў ці лепш адасобіцца і весці гаспадарку самастойна. На агульным сходзе працоўны калектыў вырашае, якую форму ўласнасці выбраць. Ці неабходна выкупляць або лепш арандаваць зямлю, якую хочуць узяць зверх той нормы, якую атрымаюць бясплатна.




**– А як гэта будзе ажыццяўляцца на практыцы?**

— У кожнай гаспадарцы неабходна вызначыць маёмасныя паі. Калі выбрана індывідуальная форма ўласнасці на зямлю, тады ўстанаўліваюцца і індывідуальныя зямельныя долі. Для гэтага бярэцца плошча палеткаў, якія належаць размеркаванню, і колькасць тых, хто мае права на іх атрыманне. А маюць яго ўсе працаўнікі калгаса або саўгаса, а таксама тыя, хто часова адсутнічае па ўважлівых прычынах, і пенсіянеры. Іх паі вызначаюцца з улікам укладу ў стварэнне фонду. Уладальнік паю можа атрымаць зямельны надзел і маёмасць пры выхадзе з калгаса (для выдзялення фермерскай гаспадаркі).

**– Па якіх крытэрыях вызначаецца ўклад у агульны фонд?**

— Рабочы стаж. Але на месцах калектыў можа ўлічыць і цяжкасць працы, і заработную плату.

**– Усе землі будуць падзелены?**

— За выключэннем тых, якія ўключаны ў фонд пераразмеркавання, перададзеных сельскім, пасялковым, гарадскім Саветам, а таксама надзелаў, занятых сенакосамі і выганамі грамадскага карыстання і арандаваных гаспадаркай.

**– Многія калгасы будавалі аб'екты на крэдыты. Новым гаспадарам прыйдзецца іх выплачваць ці іх "спішуць"?**

— Канешне выплачваць. Калі крэдыты нельга аднесці да канкрэтных аб'ектаў, тады яны дзеляцца паміж уласнікамі прапарцыянальна ацэнцы кошту іх маёмасці і зямлі.

**– У рэспубліцы шмат жывёлагадоўчых комплексаў. Як іх дзяліць?**

— Перадаваць такія прадпрыемствы ва ўласнасць трэба праз калектыўна-паявую ўласнасць. Тут праблемы няма. Непакоіць іншае — кармы. У нас, на жаль, яшчэ не сфарміраваўся рынак кармоў. Самі гаспадары не знойдуць выйсця. Дапамагчы спачатку павінна дзяржава. Але і самім спаць у шапку не трэба, а хутчэй шукаць непасрэдных пастаўшчыкоў. Частку ад неабходнага можна вырошчваць самім. Іншага шляху няма.

**– Ці застанецца існаваць калектыўная ўласнасць?**

— Што такое калектыўная ўласнасць? Гэтага ніхто не ведае. Няма яе эканамічнага абгрунтавання. Ёсць калектыўнае землекарыстанне, а ўласнасці не існуе. Мы прапануем іншае: калектыўна-паявую. Яна будзе прымяняцца ў тых выпадках, калі нельга вызначыць долі працаўнікоў. Напрыклад, фермеры пабудавалі мясакамбінат, адзін з іх захацеў выйсці са справы. Дзе яго частка? Не забярэ ж з сабою дах — ён возьме грошы.

**– Побач са слабымі гаспадаркамі ёсць "мільянеры". Навошта ім перабудоўвацца?**

— Не трэба думаць, што рэформа носіць абавязковы характар. Нікога сілай прымушаць не будуць. Калі гаспадарка мае грошы, тады можна працаваць па-ранейшаму. Аднак пай вызначыць усё роўна трэба, каб незгодныя змаглі выйсці з калгаса. Ва ўсякім разе, такі погляд выказаны ў праграме.

**– Ці ёсць канкрэтныя тэрміны правядзення рэформы?**

— Ад канкрэтыкі ў такой справе лепш адмовіцца, таму што пакуль сяляне не зразумеюць, што рэформа — гэта не выдумкі бюракратаў, а эканамічная непазбежнасць, спадзявацца на поспех нельга. Паводле нашых прагнозаў, рэфармуецца да 1200 калгасаў і саўгасаў, створыцца 1000 сельскагаспадарчых асацыяцый, 500 кааператываў і прадпрыемстваў з абмежаванай адказнасцю, 38—42 тысячы фермерскіх гаспадарак.

Аляксандр СУХАВЕРХІ.

*На маю думку*

# КАМУ ЧЭЙЗ, А КАМУ І КАРАТКЕВІЧ

Што такое макулатура? На маю думку, — гэта кнігі, якія не знайшлі свайго чытача. Не першае дзесяцігоддзе класіку сусветнай літаратуры прадаюць з-пад крыса спекулянты, а зараз дабавіліся дзяржгандаль і кааператывы, якія прадаюць кнігі па камерцыйных і дагаворных цэнах, што складае пяцьдзесят наміналаў. Цэлую бібліятэку гістарычных, публіцыстычных, мемуарных твораў нам не ўбачыць, а тым больш не купіць па банальнай прычыне — няма паперы. Пра таленавітую плеяду філосафаў, публіцыстаў, вучоных, эканамістаў, растаптаных НКУС у трыццатыя і наступныя гады, мы нават не чулі і няма ўпэўненасці, што ў перспектыве азнаёмімся з іх працамі. Прычына ўсё тая ж — няма паперы!

І ў той жа час зайдзіце ў любы кніжны магазін і пабачыце, што паліцы літаральна згінаюцца ад літаратуры, якую ніхто не купляе. Макулатура? Так! Але бывае і так, што творы Караткевіча, Мальдзіса альбо Сімяона Полацкага ляжаць гадамі дзе-небудзь у сельскай глыбінцы, а літаратура, якая расказвае, напрыклад, пра сакрэты земляробства і агратэхнікі, стаіць гадамі без попыту ў якім-небудзь гарадскім магазіне.

На парозе — рынкавыя адносіны. Выдавецтвы, рыхтуючыся да іх, метадычна ўзнімаюць цэны на літаратуру і перыёдыку. Але гэта самы просты шлях! Ці не больш мэтазгодна было б (як гэта даўно робіцца выдаўцамі за мяжой) не ставіць адразу наклад на тое ці іншае выданне, а выпусціць яго спачатку невялікім пробным накладам для вывучэння попыту або аб'явіць на яго падпіску. Дарэчы, так рабілі ўжо, аб'яўляючы падпіску на таго ж Караткевіча, Быкава, Мележа. Вядома, прапанова такая можа здацца вельмі дзіўнай, маўляў, а як жа патэнцыяльны падпісчык даведаецца пра планы рэдакцый, выдавецтваў? Ды вельмі проста. Ёсць газета "Кніжны агляд", шмат планаў-праспектаў выдавецтваў на наступны год: бяры ў рукі, вывучай, дасылай заяўкі. Часткова гэта сістэма ўкаранёна ў практыку. Але калі вопыт будзе распаўсюджаны на ўсю краіну (або хаця б для эксперыменту ў адной рэспубліцы, напрыклад, у Беларусі), то плюсаў будзе больш, чым мінусаў. І гандлю менш клопатаў, і чалавеку гарантыя: ён набудзе без паслуг спекулянтаў тое, што яму патрэбна. І папера будзе, як кажуць, уся пры справе. Да апошняга грама.



Вячаслаў ІШЧАНКА, інжынер, г.Мінск.

*Сакрэты дзелавога поспеху*

Артур БЛОХ

## МЕРФАЛОГІЯ

**Закон Мерфі.** Калі якая-небудзь непрыемнасць можа здарыцца, яна абавязкова здарыцца.

### НАСТУПСТВЫ.

1. Усё не так лёгка, як здаецца.
2. Кожная праца вымагае больш часу, чым вы плануеце.
3. З усіх непрыемнасцей адбудзецца менавіта тая, страты ад якой найвялікшыя.
4. Калі чатыры нагоды магчымых непрыемнасцей загадзя ліквідаваныя, то заўжды знойдзецца пятая.
5. Прадастаўленыя самі сабе падзеі маюць тэндэнцыю развівацца ад дрэннага да горшага.
6. Як толькі вы пачынаеце рабіць якую-небудзь працу, знаходзіцца іншая, якую трэба зрабіць яшчэ раней.
7. Усялякае рашэнне нараджае новыя праблемы.

**Другі закон Чызхолма.** Калі справы ідуць добра, у бліжэйшым будучым павінна здарыцца нешта дрэннае.

### НАСТУПСТВЫ.

1. Калі справы ідуць горш няма куды, у самым бліжэйшым будучым яны пойдуць яшчэ горш.
2. Калі вам здаецца, што сітуацыя паляпшаецца, значыць вы чагосьці не заўважылі.

**Трэці закон Чызхолма.** Любыя прапановы людзі ўспрымаюць інакш, чым той, хто іх прыносіць.

### НАСТУПСТВЫ.

1. Калі нават вашы тлумачэнні да такой ступені зразумелыя, што выключаюць усялякае няправільнае тлумачэнне, усё роўна знойдзецца чалавек, які зразумее вас не так, як трэба.
2. Калі вы ўпэўнены, што ваш учынак сустрэне ўсеагульнае адабрэнне, камусьці ён абавязкова не спадабаецца.

**Першы закон Скота.** Няважна, што хосьці ідзе няправільна. Магчыма, гэта добра выглядае.

**Першы закон Фінэйгла.** Калі эксперымент удаўся, значыць штосьці тут не так.

**Трэці закон Фінэйгла.** У любым наборы зыходных даных самая надзейная велічыня, якая не патрабуе ніякай праверкі, з'яўляецца памылкай.

**Чацвёрты закон Фінэйгла.** Калі ўжо работа правальваецца, то ўсялякія спробы яе выратаваць толькі пагоршаць справу.

**Каментарый Эрмана да тэарэмы Гінзберга.**

1. Перад тым як палепшыцца, сітуацыя пагаршаецца.
2. Хто сказаў, што яна паляпшаецца?

**Другі закон тэрмадынамікі Эверыта.** Неразбярыха ў грамадстве пастаянна ўзрастае. Толькі вельмі ўпартай працай можна яе крыху зменшыць. Аднак сама гэтая спроба прывядзе да росту агульнай неразбярыхі.

**Закон тэрмадынамікі Мерфі.** Пад націскам усё пагаршаецца.

**Закон Падэра.** Усё, што добра пачынаецца, заканчваецца дрэнна. Усё, што пачынаецца дрэнна, заканчваецца яшчэ горш.

**Тэарэма Стокмаера.** Калі здаецца, што працу зрабіць лёгка, гэта абавязкова будзе цяжка. Калі на выгляд яна цяжкая, значыць выканаць яе абсалютна немагчыма.

## НАША АНКЕТА

1. Чым жывеш сёння? Што лічыш патрэбным дзеля таго, каб сцвердзіць сябе як творца (талент, жыццёвы вопыт, інш.)?

2. Што замінае табе быць самім сабой? Твае адносіны да шматлікіх сённяшніх партый, лідэры якіх імкнуцца стаць новымі духоўнымі пастарамі нашых людзей, у тым ліку і моладзі?

3. Твая запаветная мара. Над чым працуеш? Што табе дае суполка "Крыніцы"?



### Ніна ЗАГАРЭЎСКАЯ:

1. Спакон вякоў чалавек жыве надзеяю. Калі вера можа быць хісткаю і любоў перарастае ў гнеў, то надзея жыве вечна. Добра, калі гэтыя тры якасці жывуць непадзельна і раўнапраўна. Так і я – спадзяюся. Спадзяюся на Бога, на людзей, на сябе.

Каб адчуць сябе творцам, трэба многа чытаць, ведаць жыццё краю, трэба хацець жыць, змагацца, шукаць. Не лічу, што калі друкуюць мае вершы – значыць дасягнута вышыня. Патрэбна і крытыка збоку.

2. Нічога. Хіба што – сама замінаю сабе. Калі ты чалавекам нарадзіўся, то і павінен ім памерці. Няма большай ганьбы, як быць чалавекападобным. Да партыяў ніякага дачынення не маю, хаця некаторых лідэраў паважаю, бо ў іх бачу промні з будучыні.

3. О, колькі іх, маіх мараў! Яны звычайныя, як і ў іншых. Мне таксама хочацца жыць, любіць, мець шчасце. У казку хочацца, праўда? Не! Я хачу, каб у рэшце рэшт беларусы знялі з сябе чужую вопратку. Бог нам даў Хлеб, Слова і Любоў. Жывіцьма! Сабою станьма!

Шкада, што за такія мае памкненні часам атрымліваю ў адказ: "Нацыяналіст!.." Я не прарок, але нават павагі на радзіме не маю. І ўсё ж – веру, спадзяюся, што Беларусь адродзіцца і пальецца з вуснаў народа жывая мова!

Што ёсць "Крыніцы" – вельмі добра. Тут – прыстанак пачынаючым маладым творцам. Суполка патрэбна для адкрыцця новых талентаў.



### Мікола КАСЦЮКЕВІЧ:

1. Заўсёды жыву тым, што на дадзены момант знаходзіць водгук у душы, жаданнямі і настроямі. Нават калі гэта не мае ніякага практычнага сэнсу і на шкоду самому сабе. Апошнім часам цалкам паглыбіўся ў творчасць. Дзеля гэтага патрэбны адпаведныя ўмовы, час і настрой на працу. Звычайна бракуе апошняга.

Любому пісьменніку ў першую чаргу неабходна нешта мець звыш. Душу творцы. Прадвызначанасць, калі хочаце. Астатняе (літаратурнае майстэрства і г.д.) пры настойлівасці набываецца працай.

Калі "сцвярджэнне" – толькі літаратурная кар'ера і пэўная вядомасць, то дзеля гэтага дастаткова быць проста ўседлівым.

2. Замінаюць мне часам – людзі. Асабліва непрыемна, калі лезуць у тое, што іх не тычыцца.

У партыях не разбіраюся, бо дрэнна ведаю іх, не цікаўлюся іх дзейнасцю.

3. Мару зразумець – навошта я з'явіўся на гэты белы свет. Ну і, безумоўна, пакінуць пасля сябе нешта вартае.

Працую, канешне. Цяпер займаюся прозай.

"Крыніцы" дапамагаюць мне рабіць пэўныя высновы. Тут адбываюцца цікавыя сустрэчы. Тут зрабіў я свой першы крок як літаратар.

## ПОСТАЦІ ЛІТАРАТУРЫ




### Еўдакія ЛОСЬ

**ТОЛЬКІ ТУТ**

Будзем жыць, будзем песні складаць
На прасторах айчыны ўлюбёнай
І прызнання тых песень чакаць
Толькі тут, а не дзесь за кардонам...
За кардонам не тыя вятры,
Што табе падпяюць сарамліва.
І не тыя праменні ўгары,
І не тое жытнёвае дзіва...
Змізарнееш, напэўна, тады,
Жывучы без крынічнай пяшчоты...
Мой таварыш, мой друг малады,
Толькі дома пяецца з ахвотай!
Прырасцём да бацькоўскіх сцяжын.
Да радзімы байцоў і паэтаў.
Закаханыя ў спеў ручаін,
Будзем песні складаць
Сусвету!



### Вольга НАСЯКАЙЛА

**ДЭПРЭСІЯ**

Я ішла
па счарнелых каменьчыках
змярцвелага крышлаю.
Удзень
неба выпрыснула на дол
мноства ружовых кропелек.
І цяпер
слізкая цемра глытала
бліскучыя ільдзінкі,
якія адбівалі
перлавіцу маладзіковай ночы.
Паветра
было працята сухімі
павуцінкавымі пальчыкамі,
што дрыготка лашчылі
бязмежжа зледзянелага асфальту.
Я раставала
ў морыве начнога горада.
Ён саланаватымі вуснамі
сваіх змрочна-шэрых дрэў
цалаваў мае плечы, рукі, ногі.
Я зябла
ад холаду і нездаволенасці.



### Максім КАПЫЛОВІЧ

**ГУКІ Ў СНЕ**

Суха і ціха. Божа, ад ліха
свет барані,
выйдзі да ранку, сядзь на маланку,
нас прыгарні.

Роспачна кружыць, думкай акружыць
восень жыццё.
Жоўты малюнак ды накірунак
у забыццё.

Гукі лятаюць і адлятаюць
лісцем часоў.
Птушкі і краскі ведаюць казкі
вечных лясоў.

Разам чакалі, разам гукалі
час дабрыні.
Гоман птушыны прагне шыпшыны
і цішыні.

Позірк зычлівы колеру слівы
ў бездань гадоў.
Жвавыя дзеткі, жыта палеткі,
квецень садоў.

Кволая ў цемры, ветранай хеўры
свечка душы.
А пра каханне на развітанне
лепш прамаўчы.

Жах ноччу крочыць, нешта прарочыць
кволая здань.
Чорныя горы, брудныя зоры,
мёртвая лань.

Словы і думкі, нібы вірункі
колішніх сноў,
а на талерцы нечае сэрца
стукае зноў.

Дождж барадаты збочыў за краты
сціснутых хмар.
Лупяць без страху кроплі па даху,
нудзіць камар.

**ПАЛЕССЕ**

Гэтае слова — пах чабаровы,
гэтае слова — постаць дубровы,
гэтае слова — матчына казка,
гэтае слова — шчырая ласка,
гэтае слова — выспы і сосны,
гэтае слова — досвітак росны,
гэтае слова — хлопчыка мары,
гэтае слова — сонца і хмары,
гэтае слова — моц і пяшчота,
гэтае слова — бездань балота,
гэтае слова — шчасця хвіліны,
гэтае слова — вусны дзяўчыны,
гэтае слова — шэпт трысняговы,
гэтае слова — музыка мовы,
гэтае слова — ветрыку подых,
гэтае слова — Прыпяці воды,
гэтае слова — верас у лесе,
гэтае слова — Палессе.

**Я**

Ці я падаю на неба,
ці ў магноліі сяджу,
ці раблю я кубік з хлеба,
ці ўпіраюся ў мяжу,
ці кручуся я ў прыбоі,
ці ўгрызаюся ў гурок,
ці лятаю я на мроі,
ці пяку на сонцы бок,
ці жартую я з сябрамі,
ці ныраю з галавой,
ці з каханкай, ці з рагамі —
застаюся я сабой.

**РОСПАЧ**

Дзе вы, буры-навальніцы,
дзе ты, грукат капытоў?
Не ўзляцець і не напіцца,
не знайсці шляхоў дамоў.

Дзе вы, крылы, дзе вы, мары?
Толькі соканне вужоў,
толькі скрозь навіслі хмары,
толькі вые вецер зноў.

Дзе ласкавыя далоні,
дзе каханай прыгажосць?
У якім душа палоне,
ланцугах якіх наўскрозь?

Падмануць жыццё-маланку,
абыйсці б тугі віхур,
уляцець кудысьці з ранку
ад самотных шэрых бур.

Закружляць у танцы белым
разам з квеценню садоў,
заспяваць душой і целам,
засмяяцца шчыра зноў.

Павіхурыць, пагутарыць,
закахацца і згубіць,
ноч наскрозь аб нечым марыць
і з крыніц сцюдзёных піць.

Але толькі адбалела,
адгуляла, адышло.
Свой агонь згубіла цела,
вочы — ціхае святло.

У падзенні, шапаценні
як згубіць усё паспеў?
Дзе пакінуў я карэнні?
Дзе пачуў нячутны спеў?

Мабыць, хмары нашапталі,
мабыць, гром нагрукацеў,
мабыць, птушкі наспявалі
ў чорным лесе гэты спеў?

Спеў расстання і самоты,
спеў жывога нежыцця,
спеў дрыгвы сярод балота,
кліча што да небыцця.

Зацягнула ў гэту пастку,
цягне ў бездань глыбіні.
Божа, мей такую ласку
і мяне абарані!

**РУХ**

Я збягаю з навальніцы
на прасторы цішыні,
з бою вогненнай капліцы
да дрыготкай чысціні.

Там шыраючы ў паветры,
я з аблокаў п'ю туман,
прасякаю зорак нетры
і ўзлятаю на ўраган.

Прытуліўшыся да хвалі,
з ёй імкнуся я праз час
да прыстання, што шукалі
колькі год ужо да нас.

Праз чаканне сустракаю
подыху свайго прамень,
у абшары адлятаю,
дзе застыў спрадвечны цень.

У завее цьмяна рушу
праз адценняў крохкіх шкло.
Белую, бы лебедзь, ружу
лёгка кідаю ў акно.

Сам з ёй падаю, пялёсткі
з сэрца сыплюцца ўначы,
быццам з восеньскай бярозкі
лісце збілі крумкачы.



Віталь
ЗАМУРАЕЎ

### ТРЫЯЛЕТ

*Любая, помніш?*
*Была вясна.*
*Ул. Караткевіч*

Вясна, што хутка так прайшла
Бялюткім пухам ад тополі,
Да нас не вернецца ніколі
Вясна, што хутка так прайшла...

І толькі ўспомнім мімаволі,
Якою шчыраю была
Вясна, што хутка так прайшла
Бялюткім пухам ад тополі.





Алесь
ДУБРОЎСКІ

* * *

Калі знічка падае з нябёсаў,
ёй жаданне даўняе скажы.
Не бязмежна міласэрнасць лёсу,
а ў жаданнях не знайсці мяжы.

Мара ёсць вар'яцкая: патрэсці,
нібы грушу, зорны небасхіл,
спіс жаданняў разгарнуўшы, сесці
і чытаць, пакуль хапае сіл.

І жаданні ўсе тут паступова
здзейсняцца, і ў спісе тым ні слова
ўжо не застанецца... Залатых

знікнуць зорак свечкі, з імі — мары.
Паплывуць над морам лужын хмары,
паплывуць над морам дзён пустых.





### ДЗЁННАЕ І НАЧНОЕ НЕБА

Аб ночы гаворым нярэдка,
што змрокам яна пакрывае
зямлю, але гэта хлусня!
Вось ранак. Таму я быў сведкам,
як неба ён ператварае
ў блакітную накрыўку дня.
Аблітыя промнямі сонца,
часціну мізэрна малую
Сусвету мы бачым удзень.
Аднак жа нішто не бясконца —
і вось ужо месяц малюе
на столі ўзорысты цень.
І бачым не метры, не ярды
за межамі нашай планеты,
а процьму гадоў светлавых.
І зор зіхатлівых мільярды,
і душы касмічнага свету
кранаюцца думак зямных.
Убачыўшы травы на фоне
цудоўнага россыпу зорак,
адчуем сябе жыхарамі
не ў тым паднябесным палоне,
а ў вечным, бязмежным прасторы,
адчуем, што вечнасць — твой дом.



Андрэй
ПЯТКЕВІЧ

Ходзяць чуткі, што чарговы семінар маладых літаратараў хутчэй за ўсё ў гэтым годзе не адбудзецца. Шкада, што з-за няўмелай, калі нават не зламыснай эканамічнай палітыкі нашых урадоўцаў маладыя творцы ня будуць мець магчымасьці сустрэцца хоць раз у два гады, абмеркаваць свае новыя творы, праблемы й проста колькі дзён адпачыць ад побытавай нашай мітусьні. Засмучаны гэтым, я з невыказнай настальгіяй дастаў са свайго архіва тагачасныя запісы і ўважліва іх перачытаў. Семінар "Іслач-90" быў цікавы і карысны для мяне ўжо хоць бы і тым, што наладзіў там шчырыя адносіны з сябрамі літаб'яднаньня "Крыніцы" Ігарам Сідаруком, Славікам Вашэйкам, Алесем Пашкевічам, Міколам Касьцюкевічам, Сяржуком Мінскевічам... Кармілі нас вельмі смачна, давалі сьвежыя апельсіны, сушаныя бананы ды іншыя супэрдэфіцыты. Прыемна было хоць сем дзён пражыць па-людску...

Прапаную чытачам "Чырвонай змены" свае новыя вершы, якія выбраў з той самай нізкі, што падрыхтаваў для творчага семінара моладзі "Іслач-92".

* * *

Пра што яшчэ пісаць,
Калі ж усё даўно
Напісана бяз нас,
А думкі, нібы хвалі.
Навошта ратаваць
Сваю душу ад страт,
Калі свой зорны час
Мы ўчора пахавалі.

Навошта нам шукаць
Пакуты і шляхі,
Якія завядуць
Да Д'ябла ці да Бога.
Мо лепш было б узяць
Свой клунак і пайсці
Найдалей ад усіх,
Пакінуўшы трывогу.

* * *

А ў восені свая ёсць прыгажосць.
Яна — у цішыні,
І ў птушках, што лятуць у вырай,
Самотай сьвет пранізаны наскрозь.
Навокал — карані,
І іх з душы ня вырвеш.

Няхай паўзуць хмурыны зноў і зноў
На ветлую зямлю,
Хай дождж імжыць над хатай —
Знайду я свой між велічы агнёў.
Я восень ня люблю,
І ўсё ж вітаю страты.

* * *

Нарэшце засталіся ззаду
Падобныя да ваўкалакаў дні,
Азёры, поўныя крыві,
І сьцежкі, што стаптаны здрадай.

* * *

Пачварны сон — ён сьніцца мне даўно,
Нібыта жахаў поўнае кіно.
У горкім сьвеце стомленых вачэй
Чытаю словы залатых начэй.

Вакол сябры, а можа, і ня так.
Яшчэ жыве ў душы маёй бардак.
І чорную мэлёдыю сваю
Нясу насустрач атамнаму дню.

А там, дзе калісь васількі цьвілі —
Прывіды ходзяць па пустой ральлі.
І плача недарэчнае дзіця,
Пакрыўджанае холадам жыцьця.

Пачварны сон цяпер заўжды са мной.
Я не ўцяку, нібы біблейскі Ной,
У карабель, дзе паратунак ёсьць.
Мой запавет чытае ўночы хтосьць.

Шчасьлівы шлях, ён быў не для мяне.
Яго аддаў я Д'яблу і мане.
І вось расплата — мой пачварны сон
Глядзіць у сьвет з адчыненых вакон.

* * *

Жахаў уначы поўна,
Твар Сатаны, бы поўня,
Ціха плыве па небе
У дэманічнай патрэбе:
Ноччу спаткаць ахвяру,
Зьдзейсьніць нябачную кару —
Душу завабіць у клетку,
Моцна аблытаць сеткай.
Цела аддаць прывідам,
Што да крыжоў прыбіты.
Хай пакаштуюць мяса —
Да мяса прывіды ласы.
Вочы аддаць начніцам,
Тым, што вартуюць крыніцы.
Хай паглядзяць на поўню,
Каб уцячы ў прадонне.
Крывёй частаваць вампіра,
Шакалаў, ахвочых да "кіра".
Страхаў уночы поўна.
Выюць ваўкі. Цудоўна...

* * *

Няўгледна, ціхутка гайдаецца ранак
На голках лагодных бяроз і асін.
Плывуць карагоды сярэбраных хмарак.
І плешчуцца смачна ў вадзе карасі.

А сонца ўсьміхнецца сабе бяз прычыны,
На кожнага плюне спрадвечным сьвятлом.
Хаціны паглядзяць сьвятымі вачыма
На ранак шчасьлівы, напоўнены злом.



Юры ГУМЯНЮК

# АПОСТАЛЫ НІРВАНЫ

## (Урывак з аповесці "Д'ябліца")

Каменнае скляпеньне чакала свайго гаспадара ля восеньскага лесу, калыхалася ў вечаровай імгле, падавала няведамыя знакі. Яны паўзьлі чырвонымі нэонавымі зьмеямі паўз старыя могілкі, зіхацелі на струхнелых крыжох і амшэлых мармуровых плітах. Часам выбухаў беспадстаўны сьмех, парнафанічныя гукі, арганныя мэлёдыі. Потым усё пераходзіла ў іншае вымярэньне, і на галаву лілася бязьлітасная какафонія. Галава пачынала мятляцца на плячох. Ліхтары плылі па паркалеваму небу, нібы пунсовыя хмары, запаленыя агнявым вінам бахматага сонца. Цела дрыжала і прагнула асалоды, каб адысьці ў забыцьцё і застацца тамака назаўжды сярод касьмічнае мэлёдыі.

Лео самотна крочыў, не зважаючы, што поўня глядзела на зямлю крывавымі вачыма. Адчуваліся толькі ўласныя крокі. Яны друкавалі на брукаванцы бессэнсоўныя словы. Сэрца схавала салодкую легенду, каб яе ня зьнішчыла брудна-карысьлівая атрута чалавечых зносін. Лео сьпяшаўся дамоў. Як заўсёды. Як дагэтуль. Ён ведаў, што тамака павінна адбыцца нешта неверагоднае, прыемнае і разам з тым рытуальнае. Так калісьці было. Так павінна стацца зараз.

Дэманічная сіла ночы захапляла самотніка. Нехта ўзьдзейнічаў. Нехта рагатаў. Такі штучна-ціхмяны. Белы. Заразам бессаромны. Цнатлівы. Здавалася, што гэта было маленькае дзіця, якое блукала паміж крыжоў на старых могілках. Зноў пачалася псыходэлічная музыка. Пашыралася, расьцякалася па ўсёй зямлі. Расьліны серабрыліся, шапталіся, быццам ведалі ў чым справа. Пасьля маўчалі. Раптоўна пачыналі шушукацца нанова. Гісторыя паўтаралася, замыкала злуднае кола.

Лео адчуваў сябе палонным. Кінуўся бегчы. Ногі панесьлі самі. А вецер зрываў сотні ржавых стужак і шпурляў зьбегу ў твар. Так калісьці было. Так сталася.

Аднак агеньчык доміка, дзе чакала ЯНА, перамог усялякія сумненьні, чорныя думкі і начныя сімфоніі. Жоўты мігцеў. Часам губляўся. Але хутка ўзьнікаў, працінаў восеньскую імжу. Часам чырванеў, як вока раз'юшанага цмока. Рэзаў бездапаможнае сэрца на кавалкі. Нагадваў жахлівае мінулае. Рыхтаваў неспадзяванку сёньняшняму. Зазіраў у цьмяную будучыню.

Адчыніліся дзьверы. Цытрынавы вадаспад сьвятла заліў падворак. Тысячы бронзавых мошак напоўнілі застылае паветра. Шэры цень пасьпешліва высьлізнуў на ганак і зьнік у начной прасторы. Хутка зьнік таксама шэра-зялёны "мэрсэдэс". Нібы зорная сьляза з небасхілу скацілася. Незваротна. Лео анічога не заўважыў. Можа нават і заўважыў кагосьці. Штосьці пачуў. Але гэта не паўзьдзейнічала на ягоны рытуальны настрой.

Пакой напоўніўся санлівым водарам па-майстэрску падабраных ружаў. Некаторыя чырванелі. Некаторыя жаўцелі. Іншыя сьлібелі, як бледна-ружовае марозіва на вуснах дзіцяці. "Як добра, што яна загадзя падрыхтавалася..." Было ўтульна. Як заўсёды...

Распранутая чакала яго на стракатай канапе. Можа й не яго, а іншага? Мо нікога не чакала. Так. Тым часам ноч выконвала за вакном свае непаўсьцежныя сімфоніі. Здавалася, што гучыць музыка Марыса Равэля... Электрычная лямпа палівала пунсовым напоем млявае цела адпачываючай кабеты. Думкі несьліся над фіялетавым морам загадкавых кветак, якія зьзялі ў дрыготкім паветры ля шаўковых фіранак. Яна не варушылася. Чакала, як пантэра перад рашучым скокам. Ейныя вочы нагадвалі маленькія кілішкі туркусавага віна. Шклянелі, зіхацелі, быццам адлюстроўвалі нешта замагільнае. Незразумелае для звычайных людзей з прымітыўным сьветаўспрыманьнем. "Ах, людзі... людзі... людзі..." — круцілася ў галаве. "Ах, д'яблы... д'яблы... д'яблы", — адгукалася рэха пранізьлівым плачам самотнае душы. "Ах, людзі... людзі... людзі... Ах, д'яблы... д'яблы... д'яблы..."

Яна не прывіталася з Лео. Не пацалавала яго. І ён насьцярожыўся. Падышоў. Схіліўся над ёй. На сьцяне з'явілася нешта накшталт чалавекападобнай хмары, што павісла над горамі. Ён дакрануўся гарачымі вуснамі да ейнага пляча. Пасьпешліва асыпаў пацалункамі малочныя грудзі. На нейкі момант хмара зьлілася з горамі ў адзінае цэлае.

Раптам любоўнае сочыва для кабеты зрабілася чэмерным, елкім. Яна беспераньнку хапала паветра з водарам кветак, якія ёй падараваў чарнявы незнаёмец. Ня той, з якім зараз быццам бы хацелася кахацца. Не. Здавалася, што той незнаёмец у кармазынавым гарнітуры знаходзіўся побач, трымаў аберуч, шантажаваў наўспрэч рэальнае сітуацыі. Ягоны паўторны візіт — спанявера. Небясьпека.

— Памэля, ты ўжо сьпіш? — спытаў нарэшце Лео, не адчуўшы самага істотнага — узаемнасьці.

— Амаль так. Ведаеш, даражэнькі, я сёньня пачуваю сябе неяк няпэўна. Мне няёмка. Сорамна. Страшна...

І вось, калі Лео пачаў распранацца прад люстрам, Памэля прыпаднялася, адсланіла фіранку й пачала ўважліва ўзірацца ўдалячынь...

Амарока ўзмацнялася. Сунулася ў галаву, нібы мэталёвая шруба. Маладая кабета не разумела што з ёй творыцца. Ейныя валасы бліскучым атрамантам сьцякалі па гарачаму целу. Спыняліся. Невялічкімі хвалямі разыходзіліся па аксамітным прасьцірадле. Перад вачыма гайдаліся яскравыя колы. Здавалася, што столь набывала неверагодныя кшталты, ператваралася ў водную паверхню, дзе адлюстроўваліся скажоныя рэчы. Памэля на нейкі момант убачыла й сябе. Так, яна ляжала распранутая, як ружовая лялька ў зелянкавым сьнезе. Альбо як пераможаны цмок з усходніх паданьняў... Паступова зрок вяртаўся да нормы. Амарока сыходзіла. Хтосьці запаліў сьвятло. Лео? А яна й не падумала аб ім. Бо чалавек у кармазынавым гарнітуры не дазваляў, напускаў чары, выклікаў змрочныя асацыяцыі. Нягледзячы на тое, што галава расколвалася на мноства кавалкаў, Памэля скіравала зрок на свайго дабрачынцу, які стаяў перад люстрам. Гэта і быў Лео. Ён заглыбіўся Бог ведае куды, блукаў у халодным каралеўстве люстранога шкла. Твар у твар. Вочы ў вочы. Ягоны брат па той бок, рахманы, сумны, меланхалічна-прыгожы пан павольна вызваляўся ад абдымкаў вопраткі ды паглажваў далікатна паголены твар. Трэба ж неяк захаваць асалоду, што расьцякалася разам з крывёю і вінам па шматлікіх лябірынтах тулава ўніз, да самых пальцаў стомленых ног. Хацелася прытуліцца да люстранoе выявы, панурыцца ў бурштынавую бездань, як гэта робяць Апосталы Нірваны. Але ад ільдзяное паверхні патыхала нечалавечым холадам. І прыемныя мары адразу ўзьляцелі недзе пад столь, дзе й павісьлі дробнымі хмаркамі. Хто ведае, калі ўрэшце адбудзецца рытуальнае дзеяньне, зьбліжэньне супрацьлегласьцяў, якія могуць існаваць толькі ў адзінстве? Хто ведае?

Ціхае рэха пакрочыла па пакоі. Быццам рэзананс у крыштальным келіху. Хмяльны пах кветак, як старатлівы вядзьмар, прымушаў пакласьціся й адысьці ў краіну Марфея.

Раніца хваравітымі пальцамі кранула вільготныя вейкі, і Лео прачнуўся, прыпомніў перажытае. Аднак немагчыма было адшукаць лягічную сувязь, пазьбіраць пацеркі дробных уражаньняў. Дзе ж ніць Арыядны? Неўпрыкмет танклявыя сонечныя праменьчыкі загойсалі перад вачыма. Яны драбіліся на дзесяткі вясёлкавых зайчыкаў і не давалі ўжо заснуць другі раз. Замест санлівага водару ружаў пакой апанаваў пах кавы напалову з францускімі парфумамі. Не хацелася падымацца. Цела знаходзілася ў прыемна-ўзбуджаным стане. Неабходна зараз жа рэалізаваць творчы патэнцыял.

— Памэля, хадзі да мяне... я прагну... Памэля... — Адказу не было. Лео пачуў толькі ўласныя словы. А калі падняўся, заўважыў, што каханай няма. Кінуўся на ейны ложак і некалькі разоў ударыў кулаком па падушцы. "Д'ябліца!" — парадзілася ў ягоных думках.

І вось прымроілася яму, што ложак разам з падлогай ператвараецца ў багну з мандарынавай цьвільлю. Яно паступова ўцягвае, абмывае салодкім брудам. А зялёныя рукі песьцяць ягонае тулава, ліюць цёплы чэкаляд на валасы. Доўгія жаночыя пазногці таропка рухаюцца па грудзях усё ніжэй і ніжэй. Далікатныя рукі павольна гладзяць прамежжа, ажно не стрываць ад сэксуальнага ўзбуджэньня. Раптам лясная багна пачынае сохнуць, акаляючыя дрэвы заходзяцца сіняватым полымем. Ды не, гэта ж ня дрэвы, гэта калюмны ўсходняга палаца. Вялізныя фаласы ўздымаюцца над руінамі старажытнага горада. Сьпякотна. Вільготна. Нібыта тропікі. Але спыніцца немагчыма. Усё дрыжыць у экзатычнай прасторы... Раптам — выбух. Гэйзэр гарачага малака. Усяго адна порцыя ўзьляцела ў паветра, і сонечны дыск зашыпеў, як яйкі на патэльні...

Лео ачомаўся. Падняўся. Прыняў прахалодную ванну. Выпіў кубачак духмянай кавы. Задумаўся. "Дзе ж яна ходзіць? Езус, Марыя, ужо тыдзень жыве ў мяне... Абяцала разьвеяць маю самоту, натхніць, дапамагчы духам і целам... Бажылася, як перад алтаром у касьцёле, каб дазволіў спыніцца... А так сапраўдныя мы былі разам толькі аднойчы..." Ягоныя думкі заблукалі па завулках самасьвядомасьці. Потым патанулі ў кубачку кавы. Незваротна.

Неўзабаве нехта затэлефанаваў.

— Алё...

— Лео, дзе ж ты падзеўся? Цэлы тыдзень цябе няма. Здаецца, прайшло й больш часу, чымся тыдзень?

— Магчыма, але апошнім часам я дрэнна сябе пачуваю. Нейкая сумесь нэрвовай напружанасці з дэпрэсіяй. Часам амарокі непакояць мяне...

— Глупства! Якая ў цябе можа быць нэрвовая напружанасьць, калі ты амаль нікуды ня ходзіш, нідзе не працуеш, ня ўдзельнічаеш нават у літаратурна-мастацкім жыцьці? Дарэчы, знаёмыя пыталіся пра цябе, цікавіліся ці пішаш што новае...

— Амаль нічога...

— Дрэнна, братка, зусім блага... Ведаеш, прыходзь сёньня да мяне, пакажу новыя працы, вып'ем, правядзем час, як сапраўдныя Апосталы Нірваны!

— Прапанова, канешне, спакушальная...

— Ну дык у чым справа? Хуценька зьбірайся — і да мяне. Абяцаю быць на ўзроўні!

— Я б хацеў пагаманіць на сур'ёзную тэму...

— Мы ўсё пасьпеем! Балазе цэлы дзень і ноч наперадзе...

— Добра.

Трывога агарнула Лео, пакрыла прасьцірадлам безнадзейнасьці й бессэнсоўнасьці. Тэлефанічная размова аніяк ня ўпісвалася ў агульную тканіну ягоных пачуцьцяў, парушала метафызычную сувязь часу й адлегласьці. Зрэшты, немагчыма знаходзіцца ў студні манатоніі й аднастайнасьці. Трэба тэрмінова зьмяніць настрой і адначасова накірунак дзейнасьці, пазбыцца непатрэбных хваляваньняў. Так і вырашыў Лео. Апрануўшыся, выйшаў з дому. "Чорт яе бяры! Сто гадоў яна мне патрэбна! Дзьверы зачынены. Шлях недалёкі. Вядомы з дзяцінства. Аднак сёньня панавала густая ймгла. Яна ахапіла ўвесь далягляд. Яна спакушала. Цягнула ў бездань. Прымушала вярнуцца да першапачатковых думак, настрояў, пачуцьцяў. Распальвала пажадлівасьць. Ногі скамянелі. Цяжка йсьці наперад. Крок за крокам. Лео рухаўся павольна, узіраючыся ўдалячынь, шукаючы ўчорашнія візыі. Гэта нагадвала шуканьне страчанага часу, бо штодня адбывалася нешта новае, загадзя неакрэсьленае. Усё роўна як чытаньне піктаграфічнага пісьма на старадаўніх каменьнях. Як усьмешка паганскага ідала.

Вось і каплічка чарнее на малочным тле небасхілу. Яна плыве па шмарагдавых хвалях травы, нібы човен у ранішнім моры. Лео плыве насустрач. Цішыня. Праз хвіліну яны зьліваюцца.

"Ах, тут так цёмна, холадна... а кажуць, у храмах можна душу пагрэць..." — разважаў Лео, увайшоўшы ў занядбаную каплічку. "Няўжо й гэты духоўны прытулак апаганены?"

Раптам прыемная мэлёдыя аргана абудзіла памяшканьне. Урачыстымі сьпевамі напоўнілася сэрца нечаканага госьця. Каляровыя мроі ўзьняліся па напаўзьнішчанай атынкоўцы ўвышыню. Ажно пабіты жырандоль загайдаўся... Цудоўны стан... Паяднаньне з вечнасьцю... Лео ўкленчыў і пачаў жагнацца перад выявай Божай Маці. Але малітва нешта ня клеілася.

Вушы пачала рэзаць пакасьлівая какафонія. Недзе з-за алтара выляцелі кажаны й ушчалі невыносны віск. Біліся аб шыбы, крэсьлілі на вітражох сатанінскія знакі. А на шурпатай сьцяне з'явіліся крывавыя літары: "666". Лео пераэжагнаўся. Яго ахапіў жах. "Нумар зьвера... нумар зьвера... нумар зьвера... — шапталі перасохлыя вусны замест "У імя Айца й Сына, і Духа Сьвятога".

— Амэн! — выштурхнулася з горла перапалоханага... — Езу, выратуй! — закрычаў нарэшце Лео, працягнуўшы рукі да ўкрыжаванай фігуры. Выява Пана ўздрыганулася. З Хрыстовых вачэй, далоняў і ног забруілі пурпуровыя алейністыя ручайкі. Неўпрыкмет рукі Лео арасіліся гэтай вадкасьцю, зрабіліся агіднымі. Аднак яму, надзіва, падалося, што гэта манна нябесная, сымбалічнае выратаваньне, найвялікшая таямніца веры. Аўтаматычна рукі пацягнуліся да твару. Бляклы язычок дакрануўся да пальцаў. У роце адчуўся прысмак жалеза. "Кроў... звычайная кроў... чалавечая кроў!" — мільгнула ў сьвядомасьці Лео. І ён, як корак, выляцеў з каплічкі, убачыўшы замест выявы ўкрыжаванага Езуса — голую кабету...

Яна ўвесь час стаяла ў яго перад вачыма, пакуль ён бег праз імглістае восеньскае поле. Зьмяілася. Усьміхалася. Заахвочвала. Спакушала акругласьцямі цела. Маўляў, хадзі, выратую... Зачапіўшыся за корч, Лео грымнуўся аб мяккую маці-зямлю й забыўся. Паляцеў са сьвістам у бясконцую яму. Фантастычны гадзіньнік адлічваў секунды пад хаатычны гул мэталёвых канструкцый, шматлікіх рыштаваньняў, аб якія рвецца сьціплая вопратка творцы. Ён шыбуе над дзіўнымі пірамідамі, рэзьбянымі постацямі розных памераў і кшталтаў напаўголы, паранены, ледзьве жывы, але шчасьлівы.

*Нашы рэцэнзіі*



Кастусь ВОРСІН

# ШЛЯХ ДА ЦУДУ

Кепскі ў нас час. Моташны, няўпэўнены. Усё цяжэй і цяжэй жыць па-чалавечы. І ўсё лягчэй сысці да існавання. І не холад ці голад, не гангстэры ці грамадзянская бойня страшныя сёння. Найстрашнейшыя сёння сам страх і тыя няўпэўненасць, апатыя, якія ён нараджае. Страх, млявасць і пакора. Усё гэта тоіцца ў цёмных кутках нашае душы, і толькі яркая паходня дабра, спачування, прыгажосці можа асвятліць душу, даць ёй спакой і веру ў будучыню.

Адной з жарынак гэтае паходні я бачу кнігу Віктара Говара "Пялёстак і крышталь". Што гэта? Гістарычны раман? Але адкуль у ім нашыя сучаснікі, роздум аб мастацтве? Мастацтвазнаўчая праца? Але адкуль казачныя старонкі бойкі дабра са злом? Казка? Так, найхутчэй. Казка, феерыя: трымціць Сусвет, знахарка адчароўвае жывую душу мастака, мешчанін размаўляе з Космасам, дзявочая прыгажосць пераходзіць у купалы боскага дома і шмат чаго іншага. Архітэктары і златакавалі, муляры і ткачыхі, акадэмік і цясляр, знакаміты Лазар Богша і невядомы Маскалёк, што блукаў па вёсках і пераўтвараў рознае рыззё ў каштоўныя дываны, – усе яны добрыя чараўнікі ў гэтай казцы, вызваляючыя з небыцця прыгажосць.

Бадай што наіцікавейшы з вобразаў рамана – старац Арсеній. Аповед аб ім ідзе трохі сухавата, але гэта нібы падкрэслівае душу мніха, ачарсцьвелую ў пошуках святой прыгажосці. Але вось здараецца "нешта" – і адразу мяняецца тон. Адкуль у загартаваным сэрцы столькі агню, імпэту? Ён усведамляе жыццё праз сабор, бачыць Свет адным вялізным саборам і ў працы будуе свой асабісты сусвет, пранікнёны яго новым светапоглядам, новым жыццём. Ён будуе ў саборы сваю душу, і той наліваецца харастам чалавечай душы, яе святасцю, такой непадобнай на святасць сухога Слова.

Дзівосны свет мастакоў-чараўнікоў стварыў аўтар. Нібыта і не на нашым свеце жывуць яны. Але менавіта свет, прыгожы і жорсткі, даў у рукі дойліду пэндзаль ці разец, ці проста вугольчык. Даброты Фросі – і бядак Міколка, пышныя балі – пахаванне шляхціца з апошніх высілкаў сям'і... Усё гэта адбілася ў мастацтве, дало яму жыццёвую моц.

Свет... Ён і зараз не літасцівы да нас. Цывілізацыя пагражае ўсё новымі і новымі гранямі. "Адзіная верная" простая лінія лягла чорным пункцірам на карце зоны адсялення эфемернай мяжою бяды.

Але пакуль жыве апошні чалавек – жыве і мастак.

І будзе зіхацець пялёстак Прыгожага.



## Наталля КУЛАКОВА

### ТВАЕ ЛІСТЫ

Я збірала твае лісты.
Аднойчы зграбла іх,
нібы восеньскія клёнікі,
і засыпала імі стол.
Паклала на гэтую пасцель галаву —
цудоўна марыцца.

* * *

У садзе цінькае сініца —
варожыць на рабінавай чырвані,
якой быць зіме...
Снуе, клапатліва аглядае куст
і звоніць, звоніць, звоніць...
І мне трывожна.

* * *

Вялікі чорны вугор
упаў з нябёсаў на лес.
А неба — як скінула гару з плечаў —
стала весялець, святлець, награвацца.
Нарэшце разарвалася
на мільёны агеньчыкаў
і выплеснула на Зямлю раніцу.
І птушкі спявалі гімны світанку...
А лес пад касмоццем хаваў вугра.





## Ірына ВОЙТКА

* * *

Падарыла лета
дзён аж тры букеты —
самых розных красак
найпахучы вязак.
Часам прывітанні
пасылала з неба
хмаркаю залётнай
на мае патрэбы.
А найболей лета
сябравала з сонцам —
заснавала ў пары
спраўныя красёнцы.
І вадой азёрнай
човен калыхала,
як са мной пад вечар
ціха размаўляла.
А вясёлы жнівень,
быццам хлопчык босы,
расчасаў у лета
шоўкавыя косы.



# АД БЕЛАРУСКАГА МЕНТАЛІТЭТУ

Нядаўна мне давялося вычытваць карэктуру кнігі аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Вінцэся Каратынскага (1831—1891). Яна маецца выйсці ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пад канец гэтага ці на пачатку наступнага года. Гэта другое, значна дапоўненае выданне выяўленых у старой перыёдыцы і адшуканых у архівах вершаў, а таксама артыкулаў і нарысаў, якія сведчаць пра глыбіню творчых інтарэсаў паэта і публіцыста, пра значнасць яго таленту і высокі духоўны ўзровень яго светабачання і светаўспрымання, прадвызначанага і абумоўленага беларускім менталітэтам.

Сёння чытачам прапануюцца два вершы Вінцэся Каратынскага, упершыню перакладзеныя з польскай мовы на беларускую і ўключаныя ў другое выданне яго "Твораў".

Уладзімір МАРХЕЛЬ.

## Вінцэсь КАРАТЫНСКІ

### СПАКОЮ МНЕ ДАЙ!

Спакою мне дай! Дай яго, ветрагонка!
Мінуўся той час залаты з парыванняў,
Калі за край свету душа мая звонка
Ляцела і дыхала палам жаданняў.
О! Як жа не верыў, што позірк твой — краты,
Твая прыгажосць мне шляхі асвятляла.
У сэрцы гарачым адзінай была ты,
Якое на тоненькай нітцы трымала.
Нявольнік прыкуты, не ведаў, што мае.
Прыняў кайданы за птушыныя крылы.
Узняўся, палётаў, надыхаўся раем
І ўпаў на зямлю, — дзе і жыць да магілы.
Хоць знаю, дала б ты мне радасці многа,
Палохае сэрца жар новых спатканняў.
Прашу, адпусці: для цябе я — нябога,
Малады для сяброўства, стары для кахання.

Спакою мне дай! Дай яго, ветрагонка!
Сяброўства, — яно не для палкага сэрца,
Калі пунсавее рабінавай гронкай
Дзяўчына, ці можа сяброўствам сагрэцца?
І ўсё-ткі, жыву я пазнаннем не новым,
Прыязнасць сяброўская лепш, чым каханне,
Зраўняць яе можна са Злотым Чырвоным,
Каханне ж, адзіна, — з вясёлкавым ззяннем.
Даруй, не шукаў бы цяпер я збавення.
Гарохавым пудзілам стану, — усё думка скрабе.
Калі не пазбавіцца сэрцу сумненняў,
Хто выйграе? Лёгка дамысліць табе.
З табою ў сяброўстве мне выпала б светлай дарога,
Ды сэрца баіцца агню зусім іншых спатканняў.
Прашу адпусці: для цябе я — нябога,
Малады для сяброўства, стары для кахання.

З польскай пераклала
Раіса БАРАВІКОВА.

### ДА ФЕЛІКСА О.
### (Пасля смерці яго жонкі)

Далёкія два чалавекі,
Па маці-айчыне мы брацці!
Сляза мае росіць павекі:
Ты стратаю хворы навекі,
Аб блізкай я думаю страце.
Жыць цяжка, калі быццам ты пахаваны;
Не толькі ж для нас жыцці нам дараваны.

Бягуць хвалі рэчкі, як зграя,
Калышуць у руху глыбіні,
Адна на адну набягае,
Знікае адна і другая, —
Рака не спыняецца ў плыні.
Жыццё чалавецтва — рака вечнай далі;
Жыццё чалавека — то ж кропелька хвалі.

Што плакаць? Яе тут спыніла
Пад час пераходу між зораў,
Ды мала, хоць чула і міла
Яна на зямліцы гасціла,
Да чыстых пайшоўшы прастораў.
Але людзі з часу зрабілі гадзіны;
Дзе духі, там час невымерны, адзіны.

З зямлі дух імкліва ўзлятае
Туды, дзе святая патрэба,
Як з целам сябе разбратае:
Смерць — плата, не кара якая
За змогу зямную для неба.
Дух вольны пануе над часам, прасторай;
Зямлянам нічога за смерць няма горай.

Ды што гэты смутак суровы:
Нам лёс несмяротны даецца,
Для любасці душ там асновы;
Ды што шлях кароткі жыццёвы,
Калі за ім лепшы пачнецца.
Зямную любоў заўжды з плачам яднаем;
Духоўная любасць не ў пары з адчаем.

Хоць цела яе ў дамавіне,
З'анёленай чыстай душою
Яна ўсё ж цябе не пакіне,
Жальбяна ўсплыве ва ўспаміне,
У заўтрашнім лёсе з дзятвою.
Прыгожае цела забрала магіла;
З душою душы хіба будзе паныла?

Калі дзве душы паяднаны,
Адну Бог адкрые ім мэту;
Нашто ж табе боль несціханы,
Нашто ён у небе каханай?
Навошта ўцякаеш ад свету?
Служыць хочаш Богу?
Адна тут дарога:
Працуеш для бліжніх — то й служыш для Бога.

Час заўжды шчыруе ля жніва,
Складае ў снапы кветкі й збожжа;
Але сее праца імклівa,
І зноўку квітнее ўжо ніва,
Зямля маладзее прыгожа.
Быць раем зямлі наказаў Бог магутны;
Зрабілі з яе людзі месца пакуты.

Баляць твае раны шчымліва;
Боль свету шчэ больш немагчымы.
Старайся для іншых зычліва —
Твая хай аплодніцца ніва
Для брацця, дачкі і радзімы.
У працы — уцеха, калі клапаціцца,
Каб бліжай да Неба ўзнялася зямліца.

Грунт з Нёманам у змогу імкнецца —
Такая ўжо праца цяжкая!
Хоць плынь наступае і рвецца,
Каменне не зрушвае з месца, —
Вада ж не стаіць, не сціхае!
Вада нездаровая, мутная ў лужы;
Праточная толькі здароўем нам служыць.

З польскай пераклаў
Уладзімір МАРХЕЛЬ.



Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у рэдакцыі часопіса "Першацьвет" (Дом друку, праспект Ф.Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-11-43.
Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь МАСАРЭНКА.



## Пра "гэта"

### МОЦНЫ, СТРАСНЫ, ПЯШЧОТНЫ...

**У апошнія гады дакладна высветлілася, што многія жанчыны больш не жадаюць моцнага, маўклівага "самца". Ім падабаюцца мужчыны, здольныя даць адчуць не толькі фізічнае, але і эмацыянальнае задавальненне.**

**Адной з асноўных якасцей добрага палюбоўніка якраз і з'яўляецца ўменне падтрымліваць адносіны хвалюючымі. Ніжэй вы знойдзеце некалькі парад, як стаць больш чуллівым у адносінах да сваёй выбранніцы.**

- Будзьце настолькі сладастрасным, наколькі сексуальным. Для большасці жанчын папярэднія ласкі, якія вы, магчыма, разглядаеце як "падрыхтоўку" вашай партнёркі да непасрэдных зносін, могуць быць такімі ж прыемнымі, як і тое, што за імі настане.
- Выказвайце вашы пачуцці дакраннямі. Не ператварайце абдымкі і пацалункі толькі ў прэлюдыю да ложка. Яны павінны паказваць вашу ўвагу да жанчыны.
- Не палохайцеся, калі ваша ўзбуджанасць пойдзе на спад у час заняткаў сексам. Расслабцеся і крыху пагаварыце.
- Памятайце, што заключныя ласкі важныя не менш, чым папярэднія. Не трэба вельмі многага, але некалькі пяшчотных слоў будуць вельмі актуальныя. Ніколі не адварочвайцеся і адразу не засынайце. Не трэба раптоўна ўскокваць з ложка і пачынаць апранацца.
- Ніколі не падыходзьце да новага віду сексуальнай актыўнасці жанчыны як да выкліку, як да чагосьці спецыяльна прыдуманага, каб вас праверыць. Разглядайце гэта як магчымую крыніцу асалоды. Адзінае сапраўднае фіяска – калі вы не атрымліваеце задавальнення ад таго, што робіце. Няхай вамі кіруе інстынкт. Не ўсё новае абавязкова добрае. Калі вы нешта паспрабавалі і вам гэта не спадабалася, не трэба паўтараць.
- Калі секс з гэтым чалавекам вас расчароўвае, дык наўрад ці дапаможа папаўненне рэпертуару. Секс можа даць толькі абмежаваную колькасць пачуццяў. А тое, што робіць яго непрадказальным, для большасці людзей якраз вызначаецца якасцю і глыбінёй адносін паміж імі.
- Жанчыны могуць зразумець выпадковае фіяска, якое, магчыма, нават зробіць вас бліжэй. Калі ж вы лічыце сябе абавязаным быць у пастаяннай гатоўнасці да сексу, дык занадта жорстка ўспрымеце непазбежную выпадковую няўдачу.

Старонку "Адам і Ева" вядзе Наталля Стралкова.
т. 32-50-01.

## СІНДРОМ "ДОНЖУАНІЗМУ"



**Высокі малады чалавек гадоў 30, сімпатычны, кучаравы. Толькі складка ў кутках рота выдае ўнутранае напружанне. Навошта яму псіхатэрапеўт?**

— На што скардзіцеся, якія праблемы?— прывычна задаю пытанне.

— Нават не ведаю, што адказаць. Балючых адчуванняў няма, тым больш неўрозаў. Усё, здаецца, нармальна. А вось ёсць у мяне адна праблема... з жанчынамі.

— У вас нешта не ў парадку?

— Ды не. Я не імпатэнт, не гомасексуаліст. Наадварот, маю немалы поспех у дам. Ёсць падыход. А вось знайсці сапраўдную, ажаніцца ніяк не магу. Быў з дзесятак раманаў, не лічачы лёгкіх інтрыжак... і ўсё развіваецца па адной схеме.

— Па якой жа, калі не сакрэт?

— Добра, паспрабую расказаць. Знаёмімся, але дзе, гэта не важна, я магу пазнаёміцца ў любой абстаноўцы: транспарт, кіно, пляж і г.д. Пачынаецца бурны раман, упэўнены: нарэшце — Яна! Так працягваецца два-тры месяцы, а потым — нейкая недарэчная сварка з-за дробязі... І ўсё.

— А чаму пасля сваркі нельга памірыцца?

— Напэўна, гонар не дазваляе пазваніць, папрасіць прабачэння. Не званю. Не прызначаю спаткання. А пасля ўжо і адвыкаем адзін ад аднаго, з'яўляецца іншая. Вось як было ў апошні раз. Жывём разам ужо тры месяцы, сабраліся ў загс. І тут на вечарынцы мая будучая жонка прыраўнавала да сяброўкі. А я таксама завёўся. Ну і пайшло...

— Па-мойму, пакуль не позна, вам трэба абавязкова памірыцца. А скажыце, як у вас складваліся адносіны з супрацьлеглым полам, скажам, у старэйшых класах?

— Тады я зусім не такі быў — сарамлівы, абыходзіў дзяўчат, хаця цягнула да іх. Памятаю, закахаўся ў восьмым класе, прызнаўся, а ў адказ — насмешкі, кпіны... Ды і пазней, на першым курсе інстытута, прыяцель дзяўчыну "адбіў". Я яму не дараваў, безумоўна.

— Думаю, вось у гэтых вашых перажываннях і прычына любоўных няўдач. Канешне, аніякай хваробы тут няма.

— А як гэта можна растлумачыць?

— Я лічу, што гэта своеасаблівы "сіндром донжуанізму". Няправільна, паабывацельску мяркуюць тыя, хто лічыць, што гэта проста "палавая разбэшчанасць". Справа не ў маральнай дэфармацыі асобы як такой. Бо людзі, як правіла, калі яны дастаткова развітыя духоўна, самі вельмі пакутуюць ад таго, што так атрымліваецца, шукаюць псіхалагічнай дапамогі ў сексапатолагаў, псіхатэрапеўтаў, хоць часта яе не знаходзяць.

А такія своеасаблівыя паводзіны "донжуанаў" у сферы сексуальных адносін тлумачацца не псіхафізіялогіяй, а цэлым клубком складаных псіхалагічных прычын. Папершае, пачнём з таго, што амаль ва ўсіх гэтых маладых людзей няўдала складаўся працэс сталення, фарміравання псіхалагічнай мадэлі сексуальных паводзін. У раннім узросце яны перажывалі няўдачы, непрызнанні з боку дзяўчат-аднагодкаў або эротыка з'яўлялася да іх у нейкім непрыглядным, агідным выглядзе. Такія траўмы пакідаюць цяжкі след у псіхіцы юнака. Нават калі ў больш сталым узросце актуальнасць гэтых праблем знікае, усё роўна застаецца неўратычная, балючая патрэбнасць — пастаянна даказваць самому сабе сваю мужчынскую годнасць, дабівацца ў гэтай сферы самасцвярджэння. Адсюль і няўстойлівасць палавой прыхільнасці.

Такія людзі абкрадваюць саміх сябе, падмяняючы каханне адным — мэтай валодання дзеля самасцвярджэння. Яны не здагадваюцца пра тое, пра што ведалі яшчэ старажытныя індыйцы і кітайцы, аўтары трактатаў "Камасутра" і "Дао кахання" (прынцыпу кахання "даючы, бяру"). Эратычнае пачуццё — складаная гармонія розных кампанентаў, ад жадання фізічнай блізкасці, сексуальнай разрадкі да ўзвышаных пачуццяў, пяшчоты, узаемапрыяцця і ўзаемапавагі. "Мэта творчасці — самааддача",— пісаў Барыс Пастарнак. Мэта кахання — таксама. А яшчэ больш дакладна, сэнс кахання — гэта само каханне, існаванне ў каханні.

Эгацэнтрызм валодання, валоданне дзеля самасцвярджэння, адсутнасць клопату пра любімага прыводзяць да таго, што нават "сексуальныя перамогі" ператвараюцца ў паражэнне, пазбаўленне сапраўднага задавальнення, і гэта прымушае пускацца ў новыя і новыя пошукі, усё паўтараецца па замкнёнаму колу. Да таго ж, сюды яшчэ можа дабаўляцца падсвядомае жаданне помсты, якое, магчыма, узнікла яшчэ ў раннім узросце, калі малады чалавек перажыў прыніжэнне і няўдачу. І зараз ён "кампенсуе" свае пачуцці і можа нават у свае інтымныя адносіны ўключаць элементы садызму, канешне, часцей псіхалагічнага.

Асноўная дапамога тут — не ў чыста "сексапаталагічным" плане, часцей за ўсё тут і няма ніякай паталогіі. Задача — дапамагчы чалавеку ў яго духоўным, асобавым росце. Для гэтага трэба дапамагчы чалавеку выявіць гэты "комплекс", схаваны ў падсвядомасці, зразумець інфантыльнасць эротыкі, якая "затармазіла" недзе на ўзроўні падлеткавай юначай сексуальнасці, што, на жаль, характэрна для большасці нашага насельніцтва. Толькі мала хто з гэтай нагоды звяртаецца да псіхатэрапеўта.

Па матэрыялах часопіса "Soul & Bady"

*Асабістае*

# «Не магу глядзець на жанчын»

## Споведзь пакрыўджанага мужчыны

Не так даўно давялося прачытаць у "Чырвонцы" артыкул Наталлі Чарапко "Не магу глядзець на мужчын...", і я вырашыў даслаць вам сваю споведзь і назваць яе "Не магу глядзець на жанчын...". У маладосці кахаў я адну дзяўчыну, вучыліся з ёй разам у школе. Быў я непрыкметны, сарамлівы, баяўся падысці да яе, узяць за руку. Ёй, вядома, падабаліся шустрыя, вясёлыя і да т.п. Мы скончылі школу, і нашы шляхі разышліся.




Праз колькі год я ўбачыўся з ёю... Яна даўно была замужам, мела сына, а я ўсё не жаніўся, усё яшчэ чакаў яе...

У вашай газеце была рубрыка "Перапіска". Вырашыў і я надрукаваць сваю аб'яву. І нечакана атрымаў шмат водгукаў. Пісалі адусюль, нават з Расіі і Украіны, але выбраў я толькі адно пісьмо. Даслала яго Ліля з Любанскага раёна: "Працую ў бальніцы, гадую траіх дзяцей (двух хлопчыкаў і дзяўчынку). Дзеці добрыя, дапамагаюць мне ва ўсім..." Калі я прыехаў да яе, яна быццам лятала на крылах. Да афіцыйнага распісвання гатавала і прыбірала, мяне даглядала. (Я працаваў на комплексе даяром, прыходзілася ўставаць у тры гадзіны ночы). Як усё перавярнулася пасля! Гатаваць не гатавала, сам прыязджаў раніцай з працы, распальваў у печы, даглядаў жывёлу, прыбіраў у хаце... Ніхто не дапамагаў ні ў чым. Скончылася тым, што маё сэрца не вытрымала ў прамым сэнсе гэтага слова. Я захварэў, доўга ляжаў у бальніцы... Атрымаўшы паперу аб скасаванні шлюбу, пайшоў ад іх. Зноў паспрабаваў ажаніцца ўжо ў г.п. Кіраўску... Таня выхоўвала двух хлопчыкаў. З мужам у разводзе не была, але па падказцы сваёй маці з ім не жыла. Менавіта з-за "цешчынага кіраўніцтва" давялося і мне пакінуць Таню. Ды і ў дзяцей яе ў рэшце рэшт не было належнага выхавання, рабілі што хацелі. Я працаваў на мясцовым хлебазаводзе грузчыкам. За змену як накідаюся мяшкоў з мукою — свет белы нямілы. А дамоў прыходжу ... Таня спіць. Цешча храпе так, што сцены дрыжаць. Іду секчы і складваць дровы (дапамагаць, вядома, няма каму). Потым бяру рыдлёўку і ўскопваю градкі... Не дай бог было глянуць адным вокам у тэлевізар — тут як тут цешча з заданнем. І гэтак — да позняга вечара, пакуль на двары не сцямнее. Раніцай —




зноў на работу. Колькі я цярпеў, не памятаю, але не вытрымаў і тут, сабраўся і паехаў ад іх.

Вось і вер пасля гэтага жанчынам. Я толькі не разумею аднаго — навошта яны пішуць пісьмы, клічуць, абяцаюць райскае жыццё? Ніхто з іх ніколі не спытаў, цяжка мне ці не, ніхто не пацікавіўся, ці баліць у мяне што. Пасля гэтага я не магу глядзець на жанчын. Мне здаецца, што ўсе яны аднолькавыя — гультайкі і падманшчыцы. Лепш буду адзін — так спакайней.

Васіль Багамольцаў.

Сённяшні госць "9х12"— вядомы акцёр тэатра і кіно МІКАЛАЙ КАРАЧАНЦАЎ

# У ЦІСКАХ УЛАСНАЙ ПАПУЛЯРНАСЦІ,

## або "Не люблю "запакоўвацца" ў гальштук"...

**– У чым сакрэт раскладу дня, які даў вам магчымасць сумясціць тэатр і кіно, канцэрты і нават работу сакратара Саюза тэатральных дзеячаў?**

— Калі гаварыць сумленна, па прыродзе сваёй я гультай, але дзякуй маёй маме, якая выхавала мяне так, што часам бывае няёмка падвесці людзей. Не магу дазволіць сабе падмануць чыесьці надзеі і чаканні.

**– Як ваша разнастайная дзейнасць ужываецца паміж сабой? Што вам больш падабаецца?**

— Зараз спрабую дзейнічаць па прынцыпу ўласнай цікавасці: яе можна знайсці ў кожнай маёй рабоце. Я ўдзячны лёсу, што маю магчымасць не толькі выбіраць, але і адмаўляцца. На жаль, іншы раз прыходзіцца займацца не самай цікавай справай, абумоўленай рознымі чалавечымі сувязямі. І за гэта я не ўдзячны лёсу, хоць і не апраўдваю сябе за няўдачы.

Спрабую падпарадкаваць усе свае "пабочныя" заняткі тэатру, хоць зараз гэта і можа выглядаць анахранізмам. Ні для каго не сакрэт, што акцёры вельмі мала зарабляюць. Тэатр не можа даць акцёру матэрыяльную задаволенасць, таму тэатр — не месца для бізнесу. Гэта сапраўды веравызнанне, гэта сапраўды Дом. Калі служыш тэатру — служыш адзінаму Богу. Існуючы ў тэатры маральны кодэкс не дае адносіцца да яго па-спажывецку, халтурна або фармальна: там мала адміністрацыйных спагнанняў, колькасць спектакляў, у якіх сыграў акцёр, ненамнога павялічвае заробак. Гэта і добра, і дрэнна. Ні ў адной нармальнай краіне артыст не шукае дадатковага заробку, каб пракарміць сям'ю. Яму дастаткова толькі пастаяннай работы ў тэатры.

**– Ці дапамагае або перашкаджае вам ваша вялікая папулярнасць? Як яе адчуваеце?**

— Аднаго разу мне трапілася акцёрскае выказванне, што раз адчуўшы на сабе захапленне мільёнаў гледачоў, нельга гэтага забыць. Што адчуванне на сабе мноства вачэй, якія глядзяць на цябе з захапленнем на вуліцы, — страшная і салодкая атрута. Што дзеля гэтага мы жывём, дзеля гэтага працуем. Па-мойму, герой інтэрв'ю памыліўся. Не трэба ставіць перад сабой мэту быць любімым і папулярным акцёрам. Так можна сябе вельмі абмежаваць. Нармальны артыст проста не мае права часта задумвацца аб уласнай папулярнасці. Вельмі любіць сябе — шкодна. Вядома, глупства сцвярджаць, што быць папулярным — непрыемна. Больш таго, я цудоўна разумею, што добрыя і ўважлівыя адносіны людзей — гэта паказчык майго грамадскага аўтарытэту, калі хочаце. Рацыянальным розумам усведамляю, што акрамя радасці добразычлівыя адносіны прыносяць мне карысць: лягчэй магу вырашыць нейкія праблемы, паспець зрабіць больш. Часам увага стамляе, іншы раз непрыемна, і тады не ведаеш, куды схаваць твар, або што зрабіць, каб не пазналі.

**– Ці значыць гэта, што ў цісках уласнай папулярнасці вы здольны заставацца самім сабой? Ці можаце назваць сябе ўнутрана свабодным чалавекам?**

— Давайце спачатку выпрацуем у межах гэтай размовы агульную тэрміналогію, што лічыць унутранай свабодай. Ці магу я паводзіць сябе як хачу? Не. Тое, што мяне пазнаюць на вуліцах, накладвае пэўную адказнасць "за гонар мундзіра". Калі раней я мог бы праскочыць без чаргі, таму што мяне ніхто не ведаў,




то цяпер няёмка — скажуць, акцёр нічым не адрозніваецца ад хамаў, якія ўсюды. Па мне мяркуюць не толькі аб маіх уласных вартасцях і недахопах, але і аб іншых прадстаўніках майго клана. Так што ў бытавым плане прыходзіцца ўвесь час сачыць за сабой.

Што ж датычыць свабоды адчування сябе ў гэтым свеце, то тут, як ні дзіўна, прафесія нам дапамагае. Нягледзячы на складаную залежнасць акцёра ад аўтара, рэжысёра, гледача, ён здольны адказваць за сваю творчасць і будаваць свой лёс сам. Свабода ў гэтым выпадку моцна звязана з адказнасцю за сваю справу і адчуваннем упэўненасці ў ёй.

**– Значыць, у адрозненне ад большасці людзей, прыгнечаных сучасным жыццём, у вас дастаткова сіл, каб глядзець у будучыню без страху? Няўжо вас нішто не палохае?**

— Мяне палохае шмат. Ну, напрыклад, эканамічная бездань, у якую мы "ўхаем", бандыцкае ўзвінчванне цэн, якое незразумела па якой прычыне называюць вызваленнем цэн або яшчэ прыгажэй,— лібералізацыяй. Вырастае шэраг абставін для развіцця і зацвярджэння ценявой эканомікі, а гэта дае штуршок разгулу злачыннасці. Калі раней забівалі за "інамарку" — цяпер могуць за бутэльку гарэлкі. Рэкет наогул не мае процідзеяння ў асобе слаба аснашчаных праваахоўных органаў. Але па прыродзе сваёй я аптыміст і лічу, што прадуманыя і асцярожныя дзеянні не пагоршаць становішча ў краіне.

**– Падарожнічаючы па свеце са сваімі спектаклямі і проста так, параўноўваючы два светы, як вы адчуваеце сябе на радзіме?**

— Пастаяннае ўсведамленне вялікага адрознення ў час частых паездак, як ні дзіўна, дало магчымасць спакойна да гэтага ставіцца. Так гістарычна склалася, што хтосьці жыве тут, а хтосьці — там. (Ёсць анекдот, што, маўляў, "затое тут Радзіма, сынок"). Але пры ўсіх недахопах наша жыццё мае і нейкія прывабнасці, якія я, напэўна, не прамяняю ні на што.

**- Мікалай Пятровіч, вам не хапае чаго-небудзь у жыцці?**

— Мне не хапае вельмі многага. Вось, напрыклад, часу для таго спакою, які ў маім паважным узросце неабходны, каб усвядоміць пройдзены шлях і зразумець, як жыць далей. Я заўважыў, што чытаю газеты больш і часцей, чым кнігі — гэта псуе нервы. У той час, як мы здзіўляемся вастрыні падзей і праблем, хтосьці спекулюе на іх.

**– Для многіх гледачоў, можна нават сказаць, для многіх пакаленняў гледачоў вы ўвасабляеце на сцэне і на экране сапраўднага мужчыну. Што вы самі ўкладваеце ў гэты сэнс?**

— Мне цяжка сябе ацэньваць, проста тыя персанажы, якіх мне падарыў тэатральны і кінематаграфічны лёс, даюць падставы напомніць: сапраўдны мужчына павінен, ва ўсялякім разе, быць мужным. Некаторыя з маіх герояў акружаны рамантычным арэолам, але менавіта мужчыны-рыцары, адважныя людзі сярод іх даюць магчымасць выказаць сваю думку па гэтаму пытанню. Якасці сапраўднага мужчыны не набываюцца з гадамі, іх нельга атрымаць пасля заканчэння інстытута разам з дыпломам,— яны або ёсць, або іх няма.

Пры сённяшнім маральным стане нашага грамадства прыстойнасць і гонар у сапраўднага мужчыны — рэдкасць. Добра, калі пра іх не забываюць дзеячы мастацтваў. Мне як гледачу прыемна бачыць на экране або на сцэне сапраўдных мужчын — моцных, прыстойных людзей. Калі ж, як вы кажаце, у нейкай меры гэта тычыцца і мяне,— дзякуй.

**– Наша прэса вельмі сціпла асвяціла беспрэцэдэнтны выпадак у практыцы савецкага тэатра – адкрыццё першага рускага "мюзікла" на Брадвеі. Як сведка і непасрэдны ўдзельнік падзей, што вы думаеце пра гэта?**

— Расцэньваць наш спектакль "Юнона і Авось" па мерках брадвейскага шоу — значыць, адразу звесці драматычны тэатр "Ленком" на некалькі рангаў ніжэй. Не варта спаборнічаць з тымі, хто мае даўнюю і моцную традыцыю ў гэтай галіне і добрую школу майстэрства — у вакале, пластыцы, харэаграфіі. Мы толькі будавалі свой драматычны спектакль па законах музычных. Гістарычна рускаму тэатру ёсць чым ганарыцца, і ён здольны памерацца сіламі з любымі прафесіяналамі. Мы імкнуліся данесці да сэрцаў амерыканскіх гледачоў тыя духоўныя ідэалы, якія маюцца ў нашым спектаклі.

У пытання аб "грамадскім рэзанансе" тых або іншых гастроляў на радзіме ёсць другі бок. Я не маю на ўвазе сваіх калег, але ў абывацеля часта абуджаецца радасць пры ўпамінанні аб няўдачы або праблемах акцёра або спевака, які паехаў туды, дзе можна купіць відэамагнітафон разам з джынсамі. Гэта гаворыць аб тым, што ў народа знікаюць маральныя прынцыпы — гонар, культура, нацыянальная годнасць. Упершыню я гэта адчуў, калі прыехаў з Парыжа. Сказаць, што наш спектакль сустракалі авацыяй, — нічога не сказаць; гэта быў шквал, цунамі, люстры, якія абрушваліся, і натоўпы ўдзячных людзей.

**– За абедзве паездкі – у Парыж і Нью-Йорк – трэба дзякаваць П'еру Кардэну. Ніводны рускі тэатр не мае такога апекуна. Як вы думаеце, за што "Ленкому" такая адданая любоў французскага куцюр'е?**

— П'ер Кардэн не проста выдатны мадэльер, ён дзіўны чалавек. І для нашага тэатра ён з'яўляецца не прадзюсерам на міжнародным узроўні. Ён — мецэнат. Закахаўшыся ў "Юнону" і вырашыўшы, што "рускі цуд" трэба падарыць свету, ён узяў на сябе гэту высакародную задачу. І гэта сапраўды падарунак, таму што, вядома, ён не вярнуў тых грошай, што затраціў на нашы гастролі. Іншая справа, што такі вытанчаны палітык і вопытны бізнесмен цудоўна разумее, як гэта павышае яго прэстыж."Першы савецкі тэатр на Брадвеі",— такі загаловак у газеце стаў магчымым толькі дзякуючы Кардэну.

**– Ці паўплывала знаёмства з Кардэнам на вашы стылявыя схільнасці ў адзенні?**

— Праўду кажучы, я не вельмі паспяваю пільна сачыць за тым, як апранаюся. Хоць, можа, гэта і не вельмі добра. Аддаю перавагу чаму-небудзь простаму і дэмакратычнаму і вельмі не люблю "запакоўвацца" ў гальштук, але часам прыходзіцца.

**– Вам удаецца адпачываць у гэтым напружаным рытме жыцця?**

— Так. Я гуляю ў тэніс. Не здзіўляйцеся: гэты спорт — вельмі добры адпачынак, хоць і з фізічнай нагрузкай. Валяцца на канапе не магу ды і не ўмею.

**– Мікалай Пятровіч, а цяпер бліц. Ваша любімае свята?**

— Вось не ведаю. Яны праходзяць непрыкметна, свой дзень нараджэння я часта святкую не дома. Напэўна, Новы год...

**– Ваш любімы горад?**

— Масква.

**– Пара года?**

— Лета, люблю, калі цёпла.

**– Колер?**

— Мне падабаецца гульня фарбаў.

**– Паэт?**

— Я не арыгінальны: Пушкін!

**– Ваш дэвіз?**

— "Заўжды!"

Гутарку вяла
Наталля КОЛЕСАВА,
("Тэатральнае жыццё").

## Лік на табло

Здаецца, застаўся адзіны гульнявы від спорту на Беларусі, які пакуль не прынёс нам, дзякуй Богу, расчараванняў на міжнароднай арэне. Гэта гандбол. Чарговая прыемная навіна прыляцела да нас са сталіцы Славеніі – Любляны нават хутчэй за самалёт з мінскім "СКА" на борце. Армейцы ўсё ж такі даказалі сваю перавагу над клубам "Колінска Слован" у 1/8 Кубка ІГФ, хаця і праігралі 15 лістапада славенцам тры мячы. Лік у гэтай надзіва невыніковай гульні – 17:14 на карысць гаспадароў. Тым не менш, вы памятаеце, дома мінчане здолелі выйграць чатыры мячы – 24:20. Цяпер у 1/4 розыгрышу Кубка мінскі "СКА" сустрэнецца 10 і 17 студзеня з камандай "Лойтэрсхаўзэн" з Германіі.

* * *

Прынамсі, цяпер пэўна ўжо апошні афіцыйны футбольны матч у сезоне адбыўся ў суботу на мінскім стадыёне "Трактар". Гулялі паміж сабой у фінале Кубка Беларусі... жаночыя каманды "Надзея" з Магілёва і сталічная "Электроніка". Перамаглі, безумоўна, больш вопытныя і знакамітыя магіляўчанкі з лікам 5:0.

* * *

Удала з'ездзілі ў харвацкі горад Рыеку валейбалісткі мінскага "Камунальніка". Дзве перамогі атрымалі яны над гаспадынямі пляцоўкі – 3:2 і 3:0. У 1/8 фіналу Кубка кубкаў нашых дзяўчат чакаюць сустрэчы з італьянскай камандай "Сірыа Пяруджа".

* * *

Чарговыя матчы Кубка Адраджэння (галоўнага цяпер для каманды турніру) баскетбалісткі мінскага "Гарызонта" гулялі ў Мінску. Што, на жаль, не паспрыяла ім зрабіць гэта ўдала. Дзяўчаты двойчы ўступілі кішынёўскаму "Амакому" – 76:94 і 76:78, а таксама двойчы алмаацінскаму "Кайрату" – 90:95 і 91:105. Не прыехаў у Мінск бішкекскі "Аргір" з-за фінансавых цяжкасцей. Гэтай камандзе ва ўсіх запланаваных сустрэчах былі залічаны паражэнні.

Мінскі "РТІ" гэтыя дні вельмі ўдала гуляў у нацыянальным чэмпіянаце, але сёння, 20 лістапада, яго чакае сустрэча з каўнаскім "Атлетасам" на сваёй пляцоўцы ў межах чэмпіянату Міжнароднай прафесійнай баскетбольнай лігі.

* * *

Закончыліся, нарэшце, пакуты нашых хакейных зборных, затое пачаўся другі этап розыгрышу Кубка МХЛ. Аб'ядналіся заходні дывізіён, у якім гуляе мінскае "Дынама", і маскоўскі, – безумоўна, самы моцны ў турніры. Хаця перспектыў на паляпшэнне турнірнага становішча аніякіх, затое пабачым сапраўдны хакей у выкананні майстроў.

У аўторак жа "Дынама" нарэшце ўдала згуляла з "Рыгас Старс" – 5:4. Пераможную шайбу нашы здолелі закінуць у авертайме.

З іншых вынікаў найбольш цікавы лік сустрэчы маскоўскага "Дынама" і СКА (Санкт-Пецярбург) -- 2:3

# ЯЎГЕН АНКУДА: "ЧАЦВЁРТУЮ ШАЙБУ Ў ВАРОТЫ ЗБОРНАЙ КАЗАХСТАНА Я ЗАКІНУЦЬ НЕ МОГ..."

### Прэс-канферэнцыя прэзідэнта ФХБ

Неабходнасць сустрэчы кіраўніка Федэрацыі хакея Беларусі з журналістамі наспела ўжо даўно. Толькі раней трэба было ставіць пытанні і дабівацца іх вырашэння, а цяпер засталося толькі выяўляць прычыны звыклых няўдач нашых хакейных каманд ва ўсіх асноўных спаборніцтвах года (не лічачы ўдалай гульні "Нёмана" і "Хіміка" ў адкрытым першынстве Расіі). А цягнік ужо адышоў...

Прадметам размовы стаў, зразумела, няўдалы дэбют нацыянальнай зборнай у першым для яе афіцыйным турніры, які адкрываў шлях у вялікі хакейны свет і ўрэшце запаліў чырвонае святло на ўсе бліжэйшыя буйныя спаборніцтвы, у тым ліку на зімовую Алімпіяду ў Лілехамеры.

*— Мы ўпусцілі гістарычны шанц выйсці ў групу "С" чэмпіянату свету ўжо ў гэтым годзе, прымаючы кваліфікацыйны турнір у Мінску, — пачаў першым Яўген Кірылавіч. — У наступным годзе выканаць гэтую задачу будзе яшчэ цяжэй, бо з'явяцца новыя вельмі моцныя канкурэнты — зборная Славакіі і, магчыма, каманда Квебека, які можа выдзеліцца з Канады ў асобную дзяржаву.*

*Прычын няўдачы каманды шмат. Ёсць, зразумела, і недапрацоўкі федэрацыі, але не прэзідэнт жа павінен закідваць шайбы ў вароты сапернікаў. Не можа быць моцнай зборнай без моцнага базавага клуба. Калі ўдалося ўзмацніць гульню каманды, апрануўшы яе ў майкі нацыянальнай зборнай, дык усё роўна не атрымалася ліквідаваць правал "Дынама", які, на маю думку, цалкам ляжыць на сумленні Сафонава. Правал быў закладзены яшчэ ў жніўні, у час падрыхтоўкі, калі каманда дваццаць дзён не працавала, а ездзіла ў аўтобусе па далёкім замежжы.*

*Сваімі няўдачамі мы пазбавілі сябе перспектывы. Цяпер, застаючыся па-за межамі буйной гульні, нам нельга разлічваць на задавальняючае фінансаванне з боку дзяржавы.*

Далей Яўген Анкуда паспрабаваў падрабязна адказаць на пытанні, якія ўзніклі пад час арганізацыі і правядзення турніру. Наконт выдзеленых ІІХФ грошай — некалькіх тысяч швейцарскіх франкаў — зазначыў, што яны выдзелены ФХБ у якасці падтрымкі нашай нацыянальнай федэрацыі, але іх нават не хопіць для паўнацэннага камплектавання зборных каманд.

Пра ўдзел Юрыя Шыпіцына ў гульні за Беларусь Яўген Кірылавіч сказаў, што той, маючы маскоўскую прапіску ўжо некалькі год, не з'яўляецца грамадзянінам нашай краіны.




Доўгая размова адбылася наконт удзелу, дакладней няўдзелу ў гульні зборнай Дзмітрыева і Хаткевіча. Журналістам паказалі шматлікія факсы — безвыніковую перапіску паміж федэрацыяй і германскім клубам. У заключным факсе было такое тлумачэнне немагчымасці прыезду легіянераў — у абодвух абвастрыўся... гастрыт. Дарэчы, чырвоныя шлемы для зборнай, якія немцы абяцалі ў якасці аплаты за трансферы ігракоў, так і не былі атрыманы. Цяпер трэба атрымаць грошы, бо шлемы закупілі ў Маскве, а маскі для маладзёжнай каманды падарыла міжнародная федэрацыя.

Зборная цяпер зможа згуляць толькі ў лютым, калі атрымаецца паездка на турнір у Францыю, дзе акрамя гаспадароў чакаюцца моцныя каманды Швецыі і Фінляндыі.

На пытанне, як ставіцца прэзідэнт ФХБ да змены настаўніка мінскага "Дынама", Я.К.Анкуда адказаў, што змена трэнера — прэрагатыва савета клуба і з ім ніхто не раіўся. Асабіста ён лічыць, што рашэнне наконт Сафонава прынята са спазненнем. "Супраць кандыдатуры Андрэя Сідарэнкі нічога не маю. Ён мне падабаецца сваёй сціпласцю і вельмі разумным стаўленнем да грошай. А вопыт — справа нажыўная."

Малюнак Віктара ДУБОВІКА.

Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік Яўген ПУЧКОЎ.

ХАКЕЙ

# СТРАЦІЛІ АМАЛЬ УСЁ. НАВАТ ПЕРСПЕКТЫВУ...

### Кваліфікацыйны турнір маладзёжнага чэмпіянату свету



Услед за турнірам старэйшых Мінск прымаў маладзёжны турнір, які меў пэўныя адрозненні. Па-першае, каманда, якая пройдзе кваліфікацыю, будзе гуляць у групе "С" чэмпіянату свету ўжо ў гэтым годзе — у снежні. Па-другое, нават пераможца гэтага турніру не праходзіў адразу ў жаданую групу, яму трэба было разыграць адзіную пуцёўку з пераможцам аналагічнага турніру ў Рызе. Па-трэцяе, у маладзёжным турніры да зборных Украіны, Казахстана і Беларусі далучылася нацыянальная каманда Літвы, якая зрэшты даволі значна паўплывала на канчатковы вынік. Якім чынам, раскажу ніжэй.

Першы матч зборных Казахстана і Літвы закончыўся з лікам 13:0 і не пакінуў аніякіх сумненняў у значным адставанні ў класе літоўскай каманды. З прыбалтыйскай краіны прыехалі гуляць толькі трынаццаць хлопцаў, вельмі маладых нават для маладзёжнай каманды. Варатару іх, які, дарэчы, вельмі няблага правёў турнір, споўнілася толькі чатырнаццаць год.

Увечары ў першы дзень турніру сустракаліся каманды Украіны і Беларусі. Толькі ў другім перыядзе, абодва разы гуляючы ў большасці, украінцы рэалізавалі сваю перавагу. На апошняй хвіліне матча яны да таго ж закінулі шайбу з буліту. У выніку — 3:0. Нашы ў гэтым матчы страцілі калі не ўсё, дык шмат чаго. На пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер беларускай каманды Анатоль Варывончык на пытанне вашага карэспандэнта пра тое, як яму спадабалася гульня трох ігракоў нацыянальнай зборнай, якія надзелі каскі і маскі маладзёжнай каманды, з абурэннем адказаў: "Яны не толькі не дапамаглі камандзе, нават сапсавалі яе гульню. Мне здаецца, што яны не проста зазналіся, а вельмі зазналіся. Маю на ўвазе Андрэя Андрыеўскага і Дзмітрыя Панкова, але гэтыя словы ні ў якім разе не тычацца абаронцы Сяргея Стася, якога лічу сёння лепшым у сваёй камандзе".

На наступны дзень наша каманда зноў прайграла ў матчы з казахстанскай зборнай, зноў не закінуўшы ніводнай шайбы ў вароты сапернікаў і прапусціўшы чатыры ў свае. Нават гуляючы ў большасці.

Тым часам зборная Украіны перайграла літоўскіх хакеістаў з лікам 20:0 і забяспечыла сабе ў чарговым рашаючым матчы са зборнай Казахстана пазіцыю мацнейшай дзякуючы лепшай розніцы закінутых і прапушчаных шайб. Украінцаў задаволіла б і нічыя з галоўнымі сапернікамі, але яны здолелі перамагчы іх (1:0) і атрымаць білеты ў Рыгу, падрыхтаваныя арганізатарамі.

Нашы хакеісты ў апошні дзень адыграліся на калегах — суседзях з Літвы, рэалізаваўшы ў гэтай сустрэчы, бадай, увесь свой галявы патэнцыял (лепей было б яго размеркаваць на ўсе гульні, вядома). 19:0 — вельмі буйны лік і дзякуючы яму нашы Алег Белкін і Андрэй Зазулінскі сталі лепшымі бамбардзірамі турніру. Дарэчы, Панкоў і Андрыеўскі ў гэты дзень на лёд не выходзілі.

З боку ІІХФ на турніры прысутнічаў віцэ-прэзідэнт гэтай арганізацыі Міраслаў Шубрт, які зазначыў, што ўсе тры лепшыя каманды (за выключэннем Літвы, зразумела), упрыгожылі б спаборніцтвы ў групе "С", а па класу больш падыходзяць у групу "В", але прабівацца туды ім усім прыйдзецца толькі спартыўным шляхам.

### Выніковая турнірная табліца

| | Г | В | Н | П | Ш | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Украіна | 3 | 3 | 0 | 0 | 24-0 | 6 |
| Казахстан | 3 | 2 | 0 | 1 | 17-1 | 4 |
| Беларусь | 3 | 1 | 0 | 2 | 19-7 | 2 |
| Літва | 3 | 0 | 0 | 3 | 0-52 | 0 |

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

